


B 20 149 D

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland")
(8) München 19. Schliessfach 69

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана аднаго нумару: Нямеччына** й іншыя эўрапейскія краіны — 50 фэн.; **ЗША** й **Канада** — 30 сант.; **Ангельшчына** — 1,5 шыл.; **Аўстралія** — 2 шыл. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

**Банковае конто:** Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ЦАНА 50 Н.ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ERSCHEINT VIERTELJÄHRLICH DREI MAL

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 1 (628) — Студзень-Люты (Januar-Februar) 1965 — Год выданьня 19 (19. Jahrgang)


# ЗАВАЙСТРЭНЬНЕ ВЕТНАМСКАГА КРЫЗІСУ

Палажэньне ў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі паважна ўскладнілася. У вадказ на збройныя напады камуністычных партызанаў Вет-Конг на амэрыканскія ваенныя базы ў Паўдзённым Ветнаме амэрыканская й паўдзённа-ветнамская авіяцыя зрабіла шэраг контрудараў па ваенных базах, разьмешчаных на тэрыторыі кантраляванага камуністымі Паўночнага Ветнаму, якія былі месцам падрыхтоўкі і сховішча партызанаў Вет-Конгу. Такім чынам Амэрыка прадэманстравала сваю рашучасьць адказваць на падтрымоўваную й кіраваную звонку камуністычную збройную агрэсію адпаведнымі контратакамі, не зьвяртаючы ўвагі на камуністычныя дзяржаўныя граніцы.

Да першай беспасярэдняй ваеннай сутычкі паміж збройнымі сіламі ЗША і Паўночнага Ветнаму дайшло ў пачатку жнівеня мінулага году ў міжнародных водах Танкінскай затокі. Тады паўночна-ветнамскія камуністыя, пэўна-ж у паразумленьні з камуністычным Кітаем, справакавалі інцыдэнт, відавочна з намерам выпрабаваць, наколькі правільнае кітайскае цьверджаньне аб тым, што Злучаныя Штаты — гэта «папяровы тыгр». Аднačасова, кітайскім і паўночна-ветнамскім камуністым залежала відаць і на тым, каб выпрабаваць пазыцыю тадышняга савецкага кіраўніка Хрушчова і эвэнтуальна яшчэ мацней прыбіць яго да слупа зраднікаў «нацыянальна-вызвольных рухаў» і саюзьнікаў «амэрыканскага імпэрыялізму». Тады, у адказ на напад паўночна-ветнамскіх катэраў на амэрыканскія судны амэрыканскія самалёты зьнішчылі паўночна-ветнамскія берагавыя ўмацаваньні і было дадзена папярэджаньне камуністым, што кожны напад на амэрыканскія аб'екты не застанецца без адказу

Ня гледзячы на гэта, у пачатку лютага сёлета, якраз у мамэнт прыезду Старшыні Савету Міністраў СССР Касыгіна ў Ганой, камуністычныя партызаны Вет-Конгу зрабілі напад на амэрыканскія базы ў Паўдзённым Ветнаме. І, як і трэба было чакаць, Амэрыканцы зрабілі контрудар, збамбардаваўшы базы забесьпячэньня партызанаў Вет-Конгу на тэрыторыі Паўночнага Ветнаму. Амэрыканскі ўрад зноў падкрэсьліў, што ён ня мае намеру пашыраць маштабы вайны, але ня будзе цярпець правакацыяў і на кожны ўдар будзе адказваць контрударам.

Тымчасам Касыгін выехаў з Ганою. Пасьля ягонага ад'езду ў Маскве і ў Ганоі быў апублікаваны камунікат, у якім гаварылася, што савецкі ўрад не застанецца абыякавым да лёсу Паўночнага Ветнаму і «дасьць яму неабходную дапамогу». Адразу-ж пасьля гэтага, камуністычныя партызаны Паўдзённага Ветнаму пайшлі на новую правакацыю, зразумела не без багаславенства з Ганою. Партызаны Вет-Конгу ўзарвалі будынак амэрыканскіх кашараў. Пры выбуху было забіта ці паранена каля 40 Амэрыканцаў. На адказ доўга чакаць не давялося. 150 амэрыканскіх і паўдзённа-ветнамскіх самалётаў зрабілі новы контрудар па паўночна-ветнамскіх ваенных аб'ектах.

Адказ на пытаньне, чым выкліканыя гэтыя правакацыйныя дзеяньні камуністых, знайсьці ня цяжка. Тут, перш за ўсё, трэба мець на ўвазе агульную палітыку экспансіі, праводжаную камуністычным Кітаем у Паўдзённа-Ўсходняй Азіі. Але ў гэтым канкрэтным выпадку галоўнай прычынай ваенных правакацыяў камуністых было, бясспрэчна, жаданьне Пэкіну выпрабаваць пазыцыі новага савецкага кіраўніцтва ў ветнамскім канфлікце. Аб гэтым наглядна сьветчыць тое, што напады камуністычных партызанаў на амэрыканскія базы супалі з візытам Касыгіна ў сталіцы ўсходня-азіяцкіх камуністычных краінаў. Зусім відавочна, што тут Пэкін зрабіў новую драматычную спробу перацягнуць цяперашняе савецкае кіраўніцтва на ваяўнічую пазыцыю кітайскіх камуністых, каб скончыць з савецкай тэорыяй мірнага суіснаваньня з Захадам. Выглядае, што цяпер Кітай меў крыху больш посьпехаў як пры Хрушчове, бо й Масква цяпер робіць высілкі, каб дайсьці да нейкага паразумленьня з кітайскімі камуністымі. Гэта было відаць з матарыялаў, апублікаваных з нагоды 15-ай гадавіны падпісаньня савецка-кітайскай умовы аб прыязьні і ўзаемнай дапамозе паміж СССР і Кітаем. Выступаючы з гэтай нагоды на мітынгу ў Маскве, міністар шляхоў зносінаў СССР Бешчаў гаварыў, што савецка-кітайская ўмова аб прыязьні і ўзаемнай дапамозе набірае асаблівай важнасьці ў сувязі зь падзеямі ў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі. Далей Бешчаў адзначыў, што КПСС робіць усе высілкі, каб паступова зьліквідаваць разнагалосьсі, якія ўзьніклі паміж Савецкім Саюзам і Кітаем.

Але разьлічваць на тое, што хутка можа дайсьці да поўнага савецка-кітайскага пагадненьня — перадчасна, бо з нагоды ўгодкаў тае-ж савецка-кітайскае ўмовы кітайская газэта «Жэньміньжыбао» ў сваім перадавым артыкуле падкрэсьліла, што кітайскае партыйнае кіраўніцтва далей стаіць на пазыцыях, акрэсьленых у лісьце ЦК КПК, які быў накіраваны ЦК КПСС 14-га чэрвеня 1963 году. У гэтым лісьце Кітайцы абвінавачвалі Маскву ў умешваньні ўва ўнутраныя справы іншых «сацыялістычных» краінаў, у вялікадзяржаўным шавінізьме і раскольніцтве. Зусім ясна, што Масква ня згодзіцца прыняць на сябе гэтыя абвінавачаньні, хоць бальшыня іх, дарэчы, зусім правільная.

У адным пункце Масква і Пэкін згодныя цалкам — гэта ў дамаганьні вываду амэрыканскага войска з Паўдзённага Ветнаму. А пазыцыя Амэрыканцаў ня лёгкая. Заангажаваўшы ў Паўдзённым Ветнаме свой прэстыж, уклаўшы туды вялікія фінансавыя і ваенна-тэхнічныя сродкі, Амэрыканцы ня здолелі спрычыніцца да стабілізацыі палажэньня ў гэтай краіне і да перамогі над камуністычнымі партызанамі. Вінаватая ў гэтым, у першую чаргу, дасюлешняя амэрыканская-ж палітыка «паўстрымоўваньня», якая пры ваенных дзеяньнях абмежаванага маштабу дае агрэсару, у гэтым выпадку камуністым, дзьве прынадныя магчымасьці: або нічога не прайграць (Карэя), або выйграць (Куба).

Хацелася-б верыць, што амэрыканскія контрудары на тэрыторыі Паўночнага Ветнаму будуць пачаткам і тэарэтычнай рэвізіі гэтай палітыкі.

**М. К.**

# Новае «ўзбуйненьне» тэрыторыі БССР

У канцы мінулага году амаль незаўважна адбылося нешта накшталт новага пашырэньня тэрыторыі Беларускай ССР.

Пашырэньне гэтае нязначнае — найменшае ў савецкай гісторыі маніпуляцыяў беларускай этнаграфічнай тэрыторыяй. Але факт застаецца фактам: Расейская Фэдэрацыя передала Беларускай ССР шэраг неселеных пунктаў Смаленскай вобласьці і абедзьве рэспублікі прынялі адпаведныя законы аб зьмене граніцаў паміж РСФСР і БССР. З тлумачэньнем закону Беларускай ССР у гэтай справе выступіў на сэсіі рэспубліканскага Вярхоўнага Савету 23 сьнежаня мінулага году сакратар Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Лукашэвіч. Лукашэвіч гаварыў:

«Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Беларускай ССР згадзіўся з прапановай Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету РСФСР аб перадачы на просьбу насельніцтва шэрагу населеных пунктаў Мазыкінскага сельскага Савету Манастыршчынскага раёну Смаленскай вобласьці з агульнай зямельнай плошчай дзьве тысячы 265 гэктараў у склад Мсьціслаўскага раёну Магілёўскай вобласьці. Зьмена граніцы паміж Беларускай ССР і РСФСР, у адпаведнасьці з патрабаваньнямі Канстытуцыі СССР, зацьверджаная Вярхоўным Саветам СССР».

Столькі мы даведаліся аб прычынах і памерах праведзеных зьменаў. Весткі скупыя. Але гэты сам па сабе нязначны факт — вельмі характэрны. Ён набывае асаблівае значэньне ў сьвятле савецкай прапаганды аб тым, што цяпер, у пэрыяд будаўніцтва гэтак званага камунізму, сьціраюцца, маўляў, нацыянальныя розьніцы і трацяць сваё значэньне нацыянальныя граніцы. Тымчасам, з тлумачэньняў сакратара Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР мы бачым, што далучэньне часткі тэрыторыі Смаленшчыны да Беларусі адбылося **на просьбу насельніцтва** гэтых земляў. Значыць, насельніцтву зусім не абыякава, ці яно належыць да нацыянальна свае рэспублікі, ці да чужой. Бо-ж няма ніякіх сумлеваў, што насельніцтва Смаленшчыны беларускай нацыянальнасьці. Можна сабе ўявіць, наколькі дамаганьні насельніцтва мусілі быць настойлівымі, калі Масква была змушаная пайсьці на ўступкі і правесьці зьмену граніцы паводля ўсіх канстытуцыйных фармальнасьцяў.

Як мы ўжо адзначылі, праведзеныя цяпер нязначныя зьмены ўсходніх граніцаў Беларускай ССР — ня першыя. Падобныя зьмены — гэта ўжо цэлая гісторыя. Яе варта прыгадаць у сувязі з адзначанымі ў пачатку гэтага году 46-ымі ўгодкамі абвешчаньня БССР. З нагоды гэтых урачыстасьцяў гаварылася аб тым, што Беларуская ССР была абвешчаная ў Смаленску, але пры гэтым далей затушоўваецца той факт, што ў абвешчаную тады гэтак званую «незалежную» Беларускаю савецкую рэспубліку, апрача Менскай, Горадзенскай, Магілеўскай і Віцебскай губэрняў, уваходзіла і Смаленская губэрня.

Прамоўчаецца таксама і тое, што гэтая рэспубліка праіснавала ня поўныя два месяцы, бо ўжо 27-га лютага 1919 году на ейнае месца была створаная гэтак званая Літоўска-Беларуская Рэспубліка, ці ў скароце «Літ-Бел». Пры гэтай апэрацыі тэрыторыю Беларускай рэспублікі Масква абмежавала толькі Менскай і Віленскай губэрнямі. Усе ўсходнія беларускія тэрыторыі былі самавольна, наўсуперак урачыстых дэклярацыяў пра абвешчаньне «незалежнасьці» БССР, далучаныя да РСФСР.

Афіцыйная савецкая вэрсія пра ўтварэньне БССР сарамліва прамоўчвае таксама, што новы твор «Літ-Бел», які ня меў ніякага падтрыманьня ў народзе, быў хутка зьліквідаваны, што на ягонае месца 1-га жнівеня 1920 году, на загад з Масквы, была паўторна абвешчаная БССР, гэтым разам толькі на тэрыторыі шасьці паветаў былой Менскай губэрні.

Куртатая, шасьціпавятовая БССР Беларусаў не задавальняла, наадварот — выклікала абурэньнне шырокіх масаў беларускага грамадзтва. У 1921 годзе беларускія нацыянал-камуністыя ставяць перад Масквой дамаганьне аб далучэньні да БССР беларускіх этнаграфічных земляў. Толькі праз 3 гады, у лютым 1924 году Масква пайшла на ўступкі, у выніку чаго было праведзенае першае гэтак званае ўзбуйненьне БССР. Да Беларусі быў далучаны шэраг паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губэрняў. Беларускі народ гэтым не задаволіўся. У сьнежані 1926 году да БССР былі далучаныя яшчэ два паветы Гомельшчыны.

Але й пасьля гэтага другога «ўзбуйненьня», у межах РСФСР засталіся вялікія абшары беларускай атнаграфічнай тэрыторыі. Праведзеная нядаўна новая карэктура ўсходнай граніцы на карысьць Беларускай ССР паказвае, што насельніцтва гэтай тэрыторыі не забылася пра сваё нацыянальнае паходжаньне і патрабуе далучэньня да свайго нацыянальнага асяродзьдзя.

**А. З.**

# Уінстан Чэрчыль

24-га студзеня сёлета памёр Уінстан Чэрчыль — адзін зь вядучых палітыкаў Ангельшчыны і ўсяго заходняга сьвету першай паловы нашага стагодзьдзя. Водгук, які ягоная сьмерць выклікала ўва ўсім сьвеце, гаворыць аб разуменьні тэй вялікай ролі, якую ён адыграў у навейшай гісторыі.

Уінстан Чэрчыль — старэйшы сын лёрда Рандольфа Чэрчыля — нарадзіўся ў 1874-ым годзе ў Оксфордшыры. Асьвету атрымаў у арыстакратычнай школе ў Хараў і ў ваеннай акадэміі ў Сандгэрсьце.

У 1897-98-ым гадох Чэрчыль служыў а ангельскім войску ў Індыі. У 1898-ым годзе ён браў удзел у заваяваньні Ангельшчынай Ўсходняга Судану. У часе ангельска-бурскай вайны 1899-1902-га гадоў быў ваенным карэспандэнтам газэты «Морнінг Пост».

У 1900 годзе Чэрчыль быў упяршыню выбраны ў ніжэйшую палату ангельскага парляманту, як кандыдат кансэрватыўнай партыі. У 1904-ым годзе, не пагаджаючыся зь некаторымі лідэрамі кансэрватыўнай партыі, перайшоў да лібэралаў. У 1906-ым годзе быў выбраны ў парлямант, як кандыдат лібэральнай партыі.

У 1906-ым годзе Чэрчыль заняў становішча заступніка міністра калёніяў, на якім заставаўся да 1908-га году. Ад гэтага часу пачалася ягоная ўрадавая кар'ера. У 1908 годзе Чэрчыль — міністар гандлю, у 1910-ым — міністар унутраных справаў. У 1911-ым годзе — морскі міністар.

Няўдача распачатай зь ініцыятывы Чэрчыля «Дарданэльскай апэрацыі» 1915-га году, у часе Першай Сусьветнай вайны, выклікала ягоную адстаўку з становішча морскага міністра.

У 1918-21-ым гадох ён — ваенны міністар і міністар авіяцыі. У 1921-22 гадох — міністар калёніяў.

Да гэтага часу належыць разлад, а потым і разрыў Чэрчыля зь лібэраламі. У 1924-ым годзе Чэрчыль, які вярнуўся ў кансэрватыўную партыю і быў выбраны ад яе ў парлямант, увайшоў ува ўрад Балдуіна, як міністар фінансаў. На гэтым становішчы ён заставаўся да 1929-га году. Ува ўсёй сваёй дзейнасьці Чэрчыль нязменна й пасьлядоўна праводзіў палітыку аховы магутнасьці і узмацненьня Брытанскай Імпэрыі, што ёй уважаў адным з сваіх галоўных заданьняў, як дзяржаўнага дзеяча.

У пэрыяд Другой Сусьветнай вайны Чэрчыль неаднаразова выступаў супраць вонкава-палітычнага курсу ўраду Балдуіна і, асабліва ўраду Чэмбэрлена. У верасьні 1939-га году, адразу-ж пасьля ўступленьня Вялікабрытаніі ў Другую Сусьветную вайну, ён быў прызначаны морскім міністрам, — а хутка стаўся прэм'ерам кааліцыйнага ўраду, у якасьці якога праявіў выключную мужнасьць і бліскучыя арганізатарскія здольнасьці.

Пасьля нападу Нямеччыны на Савецкі Саюз ўрад Чэрчыля ў ліпені 1941-га году падпісаў з савецкім урадам пагадненьне аб супольных дзеяньнях супраць нацыстаўскай Нямеччыны. У травені 1942-га году ў Лёндане была падпісаная ангельска-савецкая ўмова аб саюзе ў вайне супраць Нямеччыны і ейных саюзьнікаў у Эўропе і аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе пасьля вайны. Разам з Рузвэльтам і Сталінам Чэрчыль браў удзел у канфэрэнцыі кіраўнікоў урадаў трох вялікіх дзяржаваў у Тэгэране ў 1943-ім годзе, у Ялце ў лютым 1945-га году і ў першай палове Потсдамскай канфэрэнцыі 1945-га году.

Пасьля перамогі лейбарыстых на выбарах у ліпені 1945-га году ўрад Чэрчыля пайшоў у адстаўку. Чэрчыль ачоліў кансэрватыўную апазыцыю ў парляманце, адыгрываючы далей значную ролю ў акрэсьленьні палітыкі ангельскага ўраду.

У сакавіку 1946-га году Чэрчыль сказаў у Фултане (ЗША) нашумелую прамову, у якой гаварыў аб саюзе супраць сілаў за «зялезнай заслонай», упяршыню ўвёўшы ў ужытак гэты тэрмін.

Ад 1951-га да 55-га гадоў Чэрчыль зноў прэм'ер кансэрватыўнага ўраду. У часе побыту Чэрчыля пры ўладзе былі падпісаныя Парыскія пагадненьні 54-га году, якія ўключалі Нямецкую Фэдэратыўную Рэспубліку ў склад Заходняга Саюзу і Паўночна-Атлянтычнага Саюзу — НАТО. Была падпісаная ўмова аб калектыўнай абароне Паўдзённа-Ўсходняй Азіі — СЭАТО.

У 1955-ым годзе Чэрчыль адыйшоў ад актыўнай дзяржаўнай і палітычнай дзейнасьці.

У ліпені 1964-га году Ніжэйшая Палата наладзіла ўрачыстыя провады «сябру Палаты ад Вудфорду», як называлі Чэрчыля ягоныя калегі з парляманту.

Чэрчыль быў выдатным аратарам і публіцыстым. Ён аўтар шэрагу кнігаў, сярод якіх: «Гісторыя малякандзкага паходу», «Вайна на рацэ», «Зь Лёндадану ў Ледысміт», «Жыцьцё лёрда Рандольфа Чэрчыля», «Мой побыт у Афрыцы», «Сусьветны крызіс», «Мальбоpo, ягонае жыцьцё і час», «Другая сусьветная вайна», «Гісторыя народаў, якія гавораць паангельску».

# Важнае грамадзкае дасягненьне

Пад гэтым загалоўкам газэта «Беларус» — орган Беларусаў Паўночнае Амэрыкі — паведаміла аб набыцьці ў Нью Ёрку двух трох-павярховых дамоў для беларускіх грамадзкіх патрэбаў. У газэце чытаем:

Яны (дамы), пасьля двухгадовых пошукаў, купленыя ў палавіне лістапада 1964 году Фундацыяй імя Пётры Крэчэўскага за суму 180 тысяч даляраў.

Абодва дамы мураваныя, зусім новыя. Ад палавіны сьнежаня яны ўжо будуць поўнасьцяй гатовыя для ўжытку. Кажны з дамоў мае па чатыры шасьціпакаёвыя й па два трохпакаёвыя жыльлёвыя памешканьні ды па два гаражы. Увесь ніжні паверх аднаго з дамоў мае быць адведзены для Беларускага архіву й бібліятэкі, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, навуковага выдавецтва й іншых беларускіх арганізацыяў і ўстановаў. Там-жа будзе й невялікая заля для ладжаньня нацыянальных і культурных імпрэзаў. Усе-ж іншыя памешканьні будуць наймацца для жыльлёвых мэтаў. Чысты даход ад гэтых будынкаў будзе прызначаны на беларускія нацыянальныя патрэбы.

Гэтыя дамы знаходзяцца ў раёне Джэмэйкі Нью Ёрку. Яны займаюць цэлы блёк (квартал) між 167 вуліцай, Готык Роад і гарадзкім паркам. Гэта вельмі прыгожы, спакойны і поўны зелені ўзгоркавы раён. Адгэтуль вельмі выгадне спалучэньні зь іншымі часткамі Вялікага Нью Ёрку.

Набыцьцё дамоў — гэта вялікае нашае грамадзкае дасягненьне. Зь яго застаецца адно цешыцца й старацца, каб як найшырэй выкарыстаць дзеля ажыўленьня й разьвіцьця нашага нацыянальнага жыцьця ў Нью Ёрку.

# Выкарыстаньне тэхнікі ў калгасах і заўгасах

Камуністычнае кіраўніцтва Савецкага Саюзу бесперапынна цьвердзіць, што калгасна-саўгасная гаспадарка зьяўляецца самай мэханізаванай гаспадаркай у сьвеце. Між тым яшчэ ня было ніводнага году, каб калгасы й саўгасы закончылі сяўбу або сабралі ўраджай своечасова. Прычыны розныя. Там-сям не хапае сельскагаспадарчых машын, «каб у агранамічныя тэрміны закончыць палявыя работы». Бывае й так, што трактараў й камбайнаў ёсьць у дастатку, але не хапае мэханізатараў, каб гэтай тэхнікай упраўляць.

Так ці йнакш, а ў самую гарачую пару палявых працаў значная колькасьць сельскагаспадарчых машынаў у калгасах і саўгасах бязьдзейнічае. Так было і ў мінулым годзе. Да ўборкі ўраджаю па Савецкім Саюзе было адрамантавана машын «значна менш, чымся ў мінулым годзе», так паведамляла Цэнтральнае статыстычнае кіраўніцтва. Вось і сёлета, ня гледзячы на бадзёрыя прапагандовыя запэўніваньні ў савецкай прэсе аб тым, што ў усім Савецкім Саюзе кіпіць праца рамонту сельскагаспадарчых машынаў, ня ўсё йдзе гладка. Рамонт затрымліваецца, бо заводы-пастаўшчыкі ня высылаюць неабходных запасных частак, ня гледзячы на тысячы тэлеграмаў і лістоў заводам, каб «выкалаціць» патрэбныя дзеля рамонту часткі.

Страціўшы надзею на атрыманьне паводля пляну запасных частак, калгасы ўжываюць зусім просты, але надзвычай стратны спосаб закончыць у тэрмін рамонт запаснымі часткамі. Як паведамляе «Літературная газета», паэт Яншын ўбачыў у калгасе новы камбайн, які калгас купіў спэцыяльна дзеля разборкі на запасныя часткі. Цяпер такім зьявішчам нікога нельга зьдзівіць, бо толькі так калгасы напэўна і могуць здабыць запасныя часткі.

Сельскагаспадарчыя машыны ў калгасах і саўгасах, з прычыны няўмелага ўжываньня й нядбайнага захаваньня, у кароткі тэрмін зношваюцца. На рамонт траццца сотні мільёнаў рублёў. Пры чым затрачаныя сродкі не заўсёды апраўдваюцца. Шмат разоў праверана, што трактары й іншыя машыны пасьля капітальнага рамонту ўстаноўленых нормаў на працы ня выконваюць.

Шматлікія факты сьветчаць аб выключна нядбайным утрыманьні й захаваньні сельскагаспадарчых машын у калгасах і саўгасах. Як паведамляе беларуская «Сельская газета» за 28-га лістапада мінулага году, у калгасах і саўгасах пасьля збору ўраджаю і сяўбы азімых засталося на полі шмат машынаў. Валяюцца трактарныя плугі, а бораны ўжо ўрасьлі ў зямлю. Машыны не ачышчаны ад гразі. У сеялках прарасло насеньне, якое засталося пасьля сяўбы. Неахварбаваныя часткі маганаў пакрыліся гразёй. Зь некаторых мэханізмаў зьніклі асабліва каштоўныя дэталі.

Беларускія калгасы й саўгасы не зьяўляюцца выключэньнем. Нядбальства з захаваньнем і выкарыстоўваньнем сельскагаспадарчых машынаў у калгасах і саўгасах дайшло да такіх памераў, што прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР выдаў спэцыяльны ўказ пад назвай: «Аб крымінальнай адказнасьці за злачыннае — нядбайнае карыстаньне й захаваньне сельскагаспадарчай тэхнікі». Згодна гэтага ўказу вінаватыя караюцца ад аднаго да трох гадоў астрогу. На падставе гэтага агульнасаюзнага ўказу такія-ж самыя пастановы былі прынятыя і Вярхоўнымі Саветамі саюзных рэспублікаў.

Сур'ёзнай прычынай, якая стрымлівае выкарыстоўваньне калгасамі й саўгасамі тэхнікі, зьяўляецца пэрманэнтны недахоп трактарыстых, камбайнэраў і мэханізатараў. У мінулым годзе толькі ў Расейскай Фэдэрацыі да пачатку палявых працаў не хапала 400 тысяч трактарыстых і камбайнэраў. У самы напружаны час сельскагаспадарчых працаў трактары працуюць толькі 14 гадзін у суткі. Такое зьявішча тлумачыцца тым, што не хапае трактарыстых, каб перавесьці іх на двухзьменную працу. У бальшыні калгасаў і саўгасаў трактарыстыя прымушаныя працаваць на палёх цэлыя суткі з наступным сутачным адпачынкам. Пры такіх умовах якасьць вытворчасьці працы трактарыстых надзвычай нізкая.

Звычайна, як на прадпрыемствах прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы мэханізацыя вызваляе чалавека ад цяжкой ручной працы і спрыяе падняцьцю матарыяльнага становішча. Мэханізацыя не павінна была-б быць цяжарам і для калгасьнікаў. На справе-ж гэта далёка ня так. Апошнімі часамі ў савецкай прэсе выказваюцца пакуль што вельмі асьцярожныя пагляды такога зьместу: «Ёсьць яшчэ надзвычай шмат эканамічна слабых калгасаў з нізкай аплатай працы калгасьнікаў і малымі гаспадарчымі прыбыткамі». У гэтых калгасах «яшчэ няма ўмоваў дзеля эфэктоўнага выкарыстаньня ўласнай тэхнікі. Ім проста не пад сілу самым утрымліваць машыны, інжынераў і тэхнікаў, мецьь неабходныя будынкі». Гэта развaжаньні газэты «Известия».

Пры такіх умовах, набытая калгасамі тэхніка і ўтрыманьне яе забірае шмат калгасных сродкаў і зьяўляецца асноўнай прычынай нізкай аплаты працы калгасьнікаў. Вось чаму ў калгасах нядбайна ўтрымліваюць машыны. Вось чаму на Беларусі мелі месца выпадкі выкарыстоўваньня бульбакамбайнаў на зьбіраньне каменьняў на калгасных палёх. Гэтыя дарагія машыны перагварыліся ў лом, які толькі прыгодны на папаўненьне могілак з разьбітых машынаў. Такім чынам тэхніка ня стала сродкам вызваленьня чалавека ад цяжкой ручной працы і павышэньня ягонага дабрабыту. Такая недарэчнасьць магла стварыцца толькі ў калгасна-саўгаснай сыстэме, і выключаецца ўва ўмовах вольнага землякарыстаньня.

**В. Б.**

# У калгасах Беларусі

Для лепшай ілюстрацыі палажэньня з мэханізацыяй сельскай гаспадаркі на Беларусі, ніжэй передрукоўваем артыкул М. Замскага, зьмешчаны ў газэце «Літаратура і Мастацтва» з 22 студзеня сёлета:

«Гэта нататкі з журналістычнага блёкноту. Проста назіраньні й думкі чалавека, які многа езьдзіць па вясковых дарогах. Я ня зьбіраюся рабіць нейкіх абагульненьняў, але ўпэўнены, што тое, аб чым тут ідзе гутарка, сустрэнеш ня толькі на Меншчыне.

## Ненажэрныя «нябожчыкі»

У шэры, не пасьнежаньску хлюпотны дзень, я паехаў у саўгас імя Леніна. Гаспадарка гэтая з тых, куды наш брат-газэтчык езьдзіць па станоўчыя факты. Тут высокапрадуктыўная малочная жывёла, выдатная птушкафэрма (у мінулым годзе яна дала 3 мільёны яек). Саўгас заўсёды адным зь першых у раёне заканчвае ўсе сельскагаспадарчыя працы.

…Дырэктар Міхаіл Нікановіч Зубко, чалавек гадоў за пяцьдзясят, з сухім, крыху скулаватым тварам, пыхкаючы цыгарэтай, гутарыў з гасьцямі — старшынямі двух суседніх калгасаў Зубчанкам і Някрасавам. Яны сядзелі побач на канапе й слухалі дырэктара з падкрэсьленай увагай. Хоць старшыні прыехалі ў саўгас, каб праверыць, як тут падрыхтаваны фэрмы да зімы (узаемаправерка праводзілася зь ініцыятывы райкома партыі), выгляд у іх быў крыху зьбянтэжаны. Відаць, не забывалі ні на хвіліну аб тым, што наведалі славутага й багатага суседа.

…Госьці [illegible] у вялізны чатырохрадны кароўнік, заліты электрычным сьвятлом, і застываюць на месцы.

— Буралатвійкі чыстай пароды! — вымаўляе Зубчанка й у голасе яго гучыць зайздрасьць.

— Каровы, як лялькі, адна ў вадну, — заўважае й Някрасаў. — Колькі іх тут у вас?

— Дзьвесьце пяцьдзясят пяць.

— І ўсе буралатвійкі?

— Усе.

— А колькі за год даюць малака?

— Дзьве тысячы семсот, дзьве восемсот. І тлустасьць каля чатырох працэнтаў.

Старшыні ў захапленьні цмокаюць языкамі.

Я, вядома, ня маю ніякага дачыненьня да посьпехаў фэрмы, але й у мяне чамусьці ўзьнікае жаданьне пахваліцца гэтымі посьпехамі перад старшынямі. Бадзёрым голасам зьвяртаюся да дырэктара:

— Міхаіл Нікановіч, скажыце яшчэ гасьцям, які ў вас сабекошт малака. Няхай павучацца…

Але дырэктар раптам хмурыць бровы.

— 26 капеяк за кілёграм.

Я зьдзіўлена перапытваю — мо' дырэктар памыліўся. Міхаіл Нікановіч зь неахвотай паўтарае.

26 капеяк… Гэта амаль у два разы вышэй дзяржаўнай закупачнай цаны! Значыць, на кожным кілёграме малака саўгас траціць 12 капеяк!

Мы едзем з гасьцямі на другую фэрму, а ў мяне ўсю дарогу ня выходзіць з галавы гэтая лічба. Я лічыў, што добра ведаю саўгас — і раптам…

Думаю, і ніяк не магу даць рады. Звычайна, калі выяўляецца высокі сабекошт малака, адразу-ж прыводзяць прычыны: адсутнасьць мэханізацыі, дрэнная кармавая база, беспароднасьць жывёлы і г. д. Але-ж тут… Усе 600 саўгасных кароў дояць электрычнасьцю. На фэрмах механізаваны паеньне жывёлы, уборка гною, падвоз кармоў.

— Міхаіл Нікановіч, — кажу я дырэктару. — Забі мяне пярун, калі я разумею, чаму ў вас такое дарагое малако.

— Расьпішаце цяпер? — усьміхаецца дырэктар, а потым ужо сур'ёзна дадае: — Эх, братка ты мой, мы й самі пра гэта думаем многа, ды зрухаў пакуль ня відно. Кармы дарагія… Значыць, вядзём паляводзтва ня інтэнсыўна. Вялікая, вядома, у гэтым наша віна. Але-ж ці толькі наша? Памяркуйце самі — за апошнія нскалькі гадоў зьмянілася над намі шэсьць гаспадароў. Спачатку падпарадкоўваліся Міністэрству саўгасаў, потым абласному трэсту саўгасаў, потым гароднінному трэсту, Вальмянскаму тэрытарыяльнаму трэсту, пасьля перайшлі да вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўленьня, а цяпер у нас адразу два гаспадары — гародніна-малочны трэст саўгасаў і рэспубліканскае ўпраўленьне птушкагадоўлі. Так што зводкі адразу ў два адрасы адпраўляем… Не, навет у тры — раён-жа таксама патрабуе… А цяпер, кажуць, зноў нейкія зьмены будуць. Быццам забіраюць нас ад трэста…

Міхаіл Нікановіч хітра глядзіць на мяне й працягвае:

— Вы спытаеце: дык што, начальства перашкаджае высокія ўраджаі вырошчваць? Не, не перашкаджае… Але за гэты час мы чатыры разы мянялі спэцыялізацыю. А гэта значыць і структуру пасяўных плошчаў. І вось дваццаць гадоў пасьля вайны гаспадарым, а правільнага севазвароту ўвесьці ня можам. А без севазвароту які-ж ураджай…

Памаўчаўшы крыху, дырэктар заўважыў:

— Ну, гэта мы паступова пераадолеем. Але кармы ў нас дарагія яшчэ па адной прычыне. Тэхнікі многа…

— Тэхнікі многа? — ня веру я сваім вушам.

— Вось яна ў мяне дзе сядзіць! — Міхаіл Нікановіч лапае сябе па карку.

— Чаму? — дзіўлюся я, бо ведаю, што мэханізатары саўгасу славяцца на ўвесь раён.

— Чаму, чаму, — незадаволена паўтарае дырэктар. — Вось вы, газэтчыкі, ня ў крыўду вам будзе сказана, часта хапаецеся толькі за тыя факты, што самі лезуць у блёкнот. Ці то станоўчыя, ці то адмоўныя… А каб глыбей пакапацца… Вось падумай і палічы. Саўгас купіў трактар. Зь яго адразу пачынаюць утрымліваць амартызацыйныя адлічэньні. Ад трактара «ДТ-54», напрыклад, яны складаюць за год 24 працэнты ягонага балянсавага кошту. Калі машына выкарыстоўваецца на поўную магутнасьць, дык сябе апраўдвае. А калі стаіць? Амартызацыйныя адлічэньні ўсё роўна ідуць і кладуцца на сабекошт прадукцыі.

Міхаіл Нікановіч расказвае далей:

— У нас ёсьць, напрыклад, больш дзясятка бульбасаджалак, 12 капалак, 3 бульбаўборачныя камбайны, мэханізаваны сартыровачны пункт. Большую частку гэтай тэхнікі мы не выкарыстоўваем. Проста яна нам не патрэбна. Вы спытаеце, навошта-ж столькі нахапалі. Тое й яно. што не хапалі.

Некалькі гадоў назад трэстаўскаму начальству прыйшла ў галаву думка зрабіць нашу гаспадарку апорна-паказальнай па комплекснай мэханізацыі вырошчаваньня бульбы. Ну, і адразу навалам да нас пайшла адпаведная тэхніка. Але неўзабаве бульба папала ў няміласьць (памятаеце, была такая пара), і нам загадалі рэзка скараціць пасевы гэтай культуры. А тэхніка засталася. Сьпісваць яе не дазваляюць, бо яна фактычна ня была ў рабоце. Перадалі-б з балянсу на балянс у іншы саўгас — ніхто ня хоча браць гэтыя машыны — устарэлі й, наагул, былі яны ня вельмі ўдалыя, цяпер ёсьць лепшыя. І вось тараняць яны нашу эканоміку, аслабляюць гаспадарку…

…Назаўтра-ж, пасьля прыезду з саўгасу, я пайшоў у вытворчае ўпраўленьне. Чамусьці мне здавалася, што я ўражу тут усіх сваім расказам аб мёртвай тэхніцы, якая грузам вісіць на гаспадарцы… Эканамістыя зь мяне пасьмяяліся. Аказалася, што ў саўгасе імя Леніна груз гэты ня вельмі цяжкі. Калі ўзяць іншыя гаспадркі… Саўгас «Курганы», напрыклад. Там «мёртвай» тэхнікі на 100 тысячаў рублёў. Толькі зь яе ідзе ў год больш як 20 тысячаў рублёў амартызацыйных адлічэньняў. А ў саўгасе «Вішнёўка» гэтая лічба яшчэ большая

(Заканчэньне на 3-ай бач.)

**А. Аўтарханаў:**

# Камуністычная праграма дэнацыяналізацыі нацыянальнасьцяў СССР

**(Працяг з папярэдніх нумароў)**

Вельмі важным, дамінуючым вынікам усёй папярэдняй савецкай эканамічнай палітыкі ў нацыянальных рэспубліках было штучнае разьдзеленьне нацыянальнай рэспублікі на дзьве часткі — на *нацыянальную вёску* і *інтэрнацыянальны горад*. Ленін гаварыў, што адным зь «пяці элемэнтаў» імпэрыялізму зьяўляецца вываз капіталу да крыніцаў сыравіны, у калёніі. Калі мець на ўвазе савецкі імпэрыялізм, дык давялося-б сказаць, што ягоная вядучая характэрная рыса — гэта ня толькі вываз капіталу, але й вываз працы, ня толькі ў выглядзе кіраўнікоў вытворчасьці, але таксама і ў выглядзе арміі работнікаў. Таму й атрымалася, што ўсе новыя гарады й работніцкія пасёлкі, усе большыя індустрыяльныя будоўлі ў нацыянальных рэспубліках заселеныя чужым элемэнтам. Нават і пры такой палітыцы стварэньня «інтэрнацыяналізаванай» прамысловасьці, індустрыялізацыя нацыянальных рэспублікаў вельмі значна адстае ад мэтраполіі. Аб нераўнамерным разьвіцьці і аб значным адставаньні прамысловасьці нацыянальных рэспублікаў ад Расеі сьветчаць афіцыйныя цыфры аб адносінах паміж горадзкім і сельскім насельніцтвам у саюзных і аўтаномных рэспубліках. Вось дадзеныя працэнту гарадзкога насельніцтва ў саюзных рэспубліках: РСФСР — 52, Армэнія — 50, Азэрбайджан — 48, Украіна — 46, Туркмэнія — 46, Казахстан — 44, Грузія — 42, Літоўская ССР — 39, Кіргізія — 34, Узбэкістан — 34, Таджыкістан — 33, Беларусь — 31, Малдавія — 22…

Аднак, запраўдны малюнак мы маем толькі тады, калі бярэм чыста нацыянальнае гарадзкое насельніцтва. Тады мы бачым, што абсалютная бальшыня саюзных рэспублікаў і ўсе аўтаномныя рэспублікі да гэтага часу застаюцца пераважна аграрнымі краінамі. Распадзел насельніцтва саюзных рэспублікаў на гарадзкіх і сельскіх жыхароў паводля іхнай роднай мовы дае такі працэнт гарадзкога насельніцтва: Расейцы — 59,1; Армяне — 53,1; Эстонцы — 48,1; Латышы — 47,0; Украінцы — 43,5; Грузіны — 36,8; Літоўцы — 34,8; Азэрбайджанцы — 33,7; Туркмэны — 25,0; Беларусы — 24,1; Казахі — 23,6; Таджыкі — 21,9; Узбэкі — 21,2; Малдаўцы — 10,8; Кіргізы — 10,7…

Пасьля аналізу статыстычных дадзеных, якія мы тут падалі ў скароце, праф. Аўтарханаў гаворыць, што яны зьяўляюцца ўразьлівым прыкладам і нагляднай ілюстрацыяй таго, да чаго прывяла ў канчальным выніку *славутая «антыкаляніяльная» палітыка Крамля ў ягонай уласнай імпэрыі — яна прывяла да захаваньня на ейных ускраінах шэрагу клясычных «слабаразьвітых камуністычных рэспублікаў», якія ў сілу сваёй штучнай стагнацыі могуць быць зусім слушна пастаўленыя ў адзін шэраг із слабаразьвітымі краінамі Азіі і Афрыкі…*

Існуе таксама пэўная дыстанцыя паміж РСФСР і саюзнымі рэспублікамі ў дачыненьні колькасьці насельніцтва, занятага разумовай працай. Паколькі гарадзкое насельніцтва ў саюзных рэспубліках зьяўляецца пераважна «інтэрнацыянальным», а сельскае насельніцтва, апрача саўгаснага насельніцтва (Казахстан, Кіргізія) пераважна нацыянальным, дык мы падамо дадзеныя адносна гэтага толькі з сельскага насельніцтва. Колькасьць насельніцтва занятага разумовай працай у сельскіх мясцовасьцях саюзных рэспублікаў складае такі працэнт- РСФСР — 13,6; Кіргізія — 12,5; Эстонія — 12,4; Грузія — 11,9; Армэнія — 10,5; Латвія — 10,3; Узбэкістан — 9,8; Азэрбайджан — 9,6; Украіна — 9,2; Туркмэнія — 8,8; Таджыкістан — 8,8; Беларусь — 8,0; Літва — 7,4; Малдавія — 6,5…

Мы ўжо адзначалі, што акрэсьліваючымі фактарамі разьмяшчэньня вытворчых сілаў і новых капіталаўкладаў у народную гаспадарку СССР зьяўляецца не нацыянальныя, а ваенна-стратэгічныя і эканамічныя меркаваньні. Між тым, афіцыйная партыйная прапаганда ,асабліва ў слабаразьвітых краінах, цьвердзіць, што савецкія гаспадарчыя пляны заўсёды складаюцца з улікам пераважнага разьвіцьця нацыянальных рэспублікаў. Аднак, ня толькі факты мінулага, аб якіх мы ўжо гаварылі, але й аналіз апошняй сямігодкі разьбівае гэтае цьверджаньне.

Так, калі разьдзяліць абсалютную суму капіталаўкладаў на 1959—1965 гады (1488,0 мільярдаў рублёў) на душу насельніцтва ў рублёх, дык пабачым, што ў Расейскай рэспубліцы прыпадае на душу 8120 рублёў, а ў астатніх 13-ці нацыянальных рэспубліках (апрача Казахстану) толькі 5073 рублі, прычым і сярод самых нацыянальных рэспублікаў не захоўваецца прынцып прапарцыянальнага распадзелу, зусім ігнаруецца ступень адсталасьці або разьвітасьці тэй або іншай нацыі. Таму атрымліваецца так, што ў Казахстане, дзе нацыянальнага насельніцтва ўсяго толькі 30 працэнтаў, на душу прыпадае 12 527 рублёў, а ў некаторых найбольш адсталых рэспубліках з бальшынёй нацыянальнага насельніцтва на душу прыпадае нават менш пяці тысяч (Беларусь, Узбэкістан, Таджыкістан, Малдавія).

Такая відавочная несправядлівасьць у розьніцы фінансаваньня народнай гаспадаркі паміж Расеяй і нацыянальнымі рэспублікамі, з аднаго боку, і паміж самымі нацыянальнымі рэспублікамі, з другога, выклікае адпаведнае незадаваленьне ў кіраўнікоў нацыянальных рэспублікаў. Некаторыя зь іх стараюцца даказаць Маскве, што іхным рэспублікам робяць несправядлівасьць. Але ўжо адны такія намаганьні Крэмль ацэньвае як праяву найбольш страшной хваробы ў савецкіх умовах — нацыяналізму. Вось заява сакратара ЦК КПСС Л. Ільічова адносна гэтага: *«Перажыткі нацыяналізму жывучыя, учэпістыя… Іх можна заўважыць у імкненьні асобных работнікаў «вырваць» патрэбна ці непатрэбна больш асыгнаваньняў для «сваёй» рэспублікі або вобласьці на шкоду агульнадзяржаўным інтарэсам».*

Запраўдная прырода савецкага тыпу «сувэрэнітэту» наглядна дэманструецца і на аб'ёме бюджэтных правоў саюзных рэспублікаў. Як ведама, адзін з найважнейшых прывілеяў сувэрэннай рэспублікі, ейнага вярхоўнага заканадаўчага органу, — гэта зацьверджаць або адкідаць дзяржаўны бюджэт, акрэсьліваць падаткі, кантраляваць выдаткаваныя сродкі ўрадам. Калі рэспубліка зьяўляецца часткай фэдэрацыі,, дык яна ажыцьцяўляе гэтыя-ж правы, уносячы толькі частку выдаткаў у агульнафэдэратыўны бюджэт (абарона, утрыманьне фэдэральнага дзяржаўнага апарату і гэтак далей).

Нічога падобнага ня ведае савецкая сыстэма. У новай праграме проста сказана, што цэнтралізаванае плянавае кіраўніцтва «забясьпечвае правядзеньне адзінай дзяржаўнай палітыкі тэхнічнага прагрэсу, капітальных укладаў, разьмяшчэньня вытворчасьці, аплаты працы, цэнаў, фінансаў і ажыцьцяўленьне адзінай сыстэмы ўліку і статыстыкі». Ужо з гэтага аднаго пераліку эканамічных і фінансавых прарэгатываў Масквы відаць, як мала што застаецца на долю «сувэрэнных» рэспублікаў.

Перш за ўсё ў СССР існуе адзіны цэнтралізаваны бюджэт, які ўлучае ў сябе саюзны бюджэт і так званыя дзяржаўныя бюджэты 15 саюзных рэспублікаў. У сваю чаргу дзяржаўны бюджэт саюзнай рэспублікі аб'ядноўвае ў сабе рэспубліканскі бюджэт саюзнай рэспублікі, дзяржбюджэты аўтаномных рэспублікаў і мясцовыя бюджэты (гарадоў і раёнаў). Розьніца ў тэхніцы складаньня бюджэту раней і цяпер такая: раней у Маскве складалі і зацьвярджалі дзяржбюджэты саюзных рэс-

# У калгасах Беларусі

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

— 30 тысячаў рублёў... Пражэрлівыя нябожчыкі!

— Адкуль у іх столькі «лішняй» тэхнікі? — пацікавіўся я.

Старшы эканамісты — вясёла бялявая дзяўчына, зьзяючы ўсьмешкай, пакапалася ў кнігах, выпісала адтуль некалькі лічбаў і затым растлумачыла:

— І ў «Курганах», і ў «Вішнёўцы», і ў «Ждановічах» былі перавалачныя пункты. Разумееце? Быў раней такі парадак: усю тэхніку, якую завод па нарадах слаў для саўгасаў раёну, спачатку выгружалі на перавалачным пункце, а ўжо адтуль дастаўлялі ў гаспадаркі. Скажам, прывязуць вагон плугоў, выгрузяць у «Вішнёўцы», а затым тэлефануюць у гаспадаркі — прыязджайце па інвэнтар. А тут так — хто прыедзе, а хто й не. То грошаў няма, то передумалі. Машыны, якія ніхто не забраў, саўгас забавязаны быў браць на свой балянс. Вось і дагэтуль у «Вішнёўцы» стаяць без справы — дзяўчына паглядзела ў паперку — чатыры складаныя малатарні, два трактары «С-80», сіласаўборачныя машыны й многа іншай тэхнікі...

Эканамістка пераможна паглядзела на мяне, нібы гаворачы: вось гэта тэхніка дык тэхніка, ня тое, што ў вашым саўгасе імя Леніна.

— Ёсьць чуткі, што рыхтуецца пастанова, якая дазволіць гаспадаркам сьпісаць лішнюю тэхніку, — сказала нарэшце дзяўчына.

— Сьпісаць ці перадаць іншым гаспадаркам?

— А што там перадасі... Уявіце сабе машыны, якія два-тры гады прасталі бяз догляду пад адкрытым небам. Ды й разукамплектаваны яны... Патрэбна гайка ці шурупчык які — пайшоў адвіньціў...

Усё гэта не ўкладвалася ў галаве. Сьпісаць на лом тэхніку, якая за сваё жыцьцё так і ня ўбачыла поля... Аб гэтым навет цяжка гаварыць... Ну, а калі сьпішуць, дык што, на гэтым кропка? Больш такога не паўторыцца? Перавалачных пунктаў цяпер ужо няма... Але-ж... Я ўспамінаю, як учора на фэрме Міхаіл Ніканавіч паказаў адзін з двух агрэгатаў для прыгатаваньня сянной мукі й зь усьмешкай растлумачыў:

— Падарунак «Сельгастэхнікі».

— Чаму падарунак? — не зразумеў я.

— Убачыў я нядаўна на складзе «Сельгастэхнікі» такі агрэгат і папрасіў, каб прадалі. А мне кажуць: адзін не прадаецца, калі хочаш, бяры два. Прыйшлося ўзяць.

— А мы хацелі купіць, дык не далі, — заўважвае Някрасаў.

Дырэктар сьмяецца:

— Гэта, браце, такая кантора, дзе патрабуюць, каб грошы адразу на бочку. Наш саўгас заўсёды з грашыма. За садавіну ды за птушку выручаем. Таму з намі сябруюць. Але і ў гэтым радасьці мала, бо не-не, а глядзіш — і падсунуць табе нехадавы «тавар», маўляў, грошы ёсьць — выручай. А ня выручыш, дык «прыдзе коза да воза»...

## У сямі нянек...

Старшыня калгасу імя Ільіча Іван Аляксандравіч Пісьлевіч, заўсёды павольны й маўклівы чалавек, нэрвова хадзіў па кабінэце й лаяўся:

— Каменная сьцяна! Не пераб'еш!..

— Іван Аляксандравіч, што здарылася? — цікаўлюся я.

Старшыня расказвае. Некалькі гадоў назад Менская кантора «Міжкалгасбуда» (або «доўгабуда», як яе называюць у вёсцы) узялася пабудаваць у калгасе кароўнік. І не абы які, а з комплекснай мэханізацыяй усіх працаёмкіх работ.

— Будуць тут і аўтапаеньне, электрадойка, і іншыя выгоды, — абяцалі кіраўнікі канторы.

Хутка казка кажацца, а як перайшлі да справы... Адным словам, за тры з палавінай гады будаўнікі так-сяк зьляпілі памяшканьне. І вось тут мы даведаліся, колькі каштуе фунт ліха.

Аказалася, што «Міжкалгасбуд» — гэта толькі генпадрадчык. Пасьля таго, як сьцены і дах кароўніка былі зроблены, прыйшлося клікаць субпадрадчыкаў. Воданапорную вежу й паілкі ўстанаўлівае раённае аддзяленьне «Сельгастэхнікі». Шчыліну для вежы бурыць «Прамбурвод». За электраабсталяваньне (ставіць слупы, цягне лінію, робіць нутраную праводку) адказвае «ПМК» — перасоўная мэханізаваная калёна. Уключае электрычнасьць «Менскі электрасецьцявы раён». У кожнай з гэтых паважных арганізацыяў распрацаваны свае графікі работ.

Першымі ў калгас прыехалі спэцыялістыя «Сельгастэхнікі». Майстры ўбачылі, што шчыліна яшчэ не прабурана й паехалі дадому. Потым завіталі электрыкі. Але і ім пакуль-што ня было чаго рабіць. Нарэшце, зьявіліся працоўныя з «Прамбурвода» й пачалі бурыць шчыліну. Цяпер трэба было клікаць майстроў зь «Сельгастэхнікі».

— Тыдзень званю, — скардзіўся Пісьлевіч, — ня едуць... Кажуць, на іншых аб'ектах заняты. А мы чым вінаваты...

...Неяк месяцы праз два пасьля гэтай размовы — на двары стаяла ўжо глыбокая восень — я сустрэў Івана Аляксандравіча ў горадзе.

— Як справы з вашай фэрмай?

— Не кажыце, гора адно... Кароў паставілі ў памяшканьне, а праз дзень сапсаваўся водаправод. Ня ідзе вада, хоць трэсьні. Вось і бегаю па арганізацыях. «Прамбурвод» звальвае ўсё на «Сельгастэхніку», маўляў, няправільна вежу паставілі. А тыя, наадварот, кажуць, што шчыліна мелкая, таму й вады няма. Паспрабуй разьбярыся цяпер... Старшыня ўздыхнуў: — не шанцуе нашаму калгасу...

Што я мог яму сказаць? Што не «шанцуе» большасьці сельгасарцеляў раёну? Вунь у калгасе імя Кірава кароўнік будуюць ужо чатыры гады, у арцелі імя Леніна — тры з палавінай... Што мэханізацыя на фэрмах звычайна выходзіць са строю праз тыдзень-другі? З 26 даільных установак «ёлачка» й «імпульс», якімі былі абсталяваныя кароўнікі за апошнія два гады, працуе толькі адна...

Аднойчы я спытаў у інжынера вытворчага ўпраўленьня па будаўніцтву Ніны Аляксандраўны Кунцэвіч: чаму адзін кароўнік павінны будаваць аж некалькі арганізацыяў? Яна паціснула плячыма й, падумаўшы, адказала:

— Спэцыялізацыя.

Па тону я зразумеў, што сказаць яна хацела нешта іншае, ды толькі не знайшла слова...

## Дырэктыва...

Раніцой у саўгас «Бальшавік» прыслалі з раёну тэлефанаграму, у якой прапанавалася не пазьней, чым сяньня, прыняць сацыялістычныя забавязаньні на 1965 год.

Упаўнаважаны — Міхаіл Іванавіч Баравікоў, заступнік начальніка вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўленьня, прыехаў у гаспадарку пасьля абеду. Цяпер ён сядзеў у канторы, нецярпліва стукаў пальцамі па стале й штохвіліны пытаўся ў старшыні рабочкома, калі зьбяруцца людзі.

— Мусіць, нічога ня выйдзе, — гаварыў той, — бо на ранішняй нарадзе мы яшчэ ня ведалі, што будзе сход, і працоўныя ня папярэджаны.

— Трэба хоць актыў сабраць.

Нарэшце прыйшлі спэцыялістыя, брыгадзіры, загадчыкі фэрмаў.

— Вам трэба прыняць забавязаньні на будучы год, — сказаў Міхаіл Іванавіч. — Якія будуць прапановы?

Прысутныя маўчалі. Баравікоў зазірнуў у паперку:

— Прапануюцца такія лічбы: збожжавых атрымаць па 15 цэнтнараў з гэктару, бульбы...

— Пачакайце! з крэсла падняўся брыгадзір Радзевіч. — Чаму пайменна пятнаццаць? Сёлета-ж было менш дзесяці цэнтнараў... І наагул за апошнія гады вышэй адзінаццаці не скакалі...

У Міхаіла Іван-віча пачырванела шыя.

— Нам трэба глядзець уперад, а не назад!

— Але-ж навошта са столі браць лічбы? — не супакойваўся ўпарты брыгадзір. — Што ў нас у будучым годзе зямля пераменіцца ці ўгнаеньняў больш будзе? Вунь амаль увесь сьнежань дарогі саннай ня было, на поле ня вылезеш.

Прысутныя адабральна зашумелі.

Міхаіл Іванавіч нэрвова круціць у руках аркушок паперы зь лічбамі.

— Я з вамі гавару ад імя раёну, — у голасе ўпаўнаважанага гучаць мэталічныя ноткі. — Трэба ўзяць павышаныя забавязаньні... Разумееце? Дырэктыва...

Некалькі чалавек павольна падымаюць рукі. Брыгадзір, якому робяць знакі з прэзыдыюму, апускае галаву й таксама галасуе...

☆

Гэтыя тры гісторыі непадобныя адна на адну. Але ў кожнай зь іх можна заўважыць цень раўнадушнага чалавека. Ён вельмі дзейны гэты чалавек. Ён імгненна рэагуе на кожную пастанову. Але такая ў яго прырода — пертварыць самую разумную ідэю ў ейную супрацьлегласьць.

Саўгасу патрэбна тэхніка? Давай навалам тэхніку! Каму, якую — ня мае значэньня (у саўгасе «Праўда» ўжо некалькі гадоў іржавеюць ільнаапрацовачныя машыны, хоць лён тут ніколі ня сеялі).

Спэцыялізацыя — разумная справа? Давай спэцыялізацыю. Адзін хай піша, другі для яго мачае ў чарніла пяро.

Усё гэта вельмі дорага каштуе нам. Вось чаму, кажучы словамі Валянціна Авечкіна, мы «ня можам не адчуваць вялікі гаспадарскі гнеў на ўсё тое, што перашкаджае жыць лепей».

Ня можам!»

# Беларуская цаліна й іншыя справы

Трэба адзначыць як пазытыўную зьяву ў гаспадарчых справах Беларусі больш сьмелае ўздыманьне народнагаспадарчых праблемаў з боку дзяржаўных і гаспадарчых кіраўнікоў рэспублікі. Гэтым разам спынімся на тых пытаньнях, якія былі закранутыя дэпутатамі БССР на сэсіі Вярхоўнага Савету СССР, што адбывалася ў Маскве ў першай палове сьнежаня.

На сэсіі Савету Нацыянальнасьцяў, 10-га сьнежаня, выступілі Старшыня Дзяржпляну Беларускай ССР Малінін і Старшыня Савету міністраў БССР Кісялёў. Абодва яны ў сваіх прамовах не абмяжоўваліся звычайнымі ў такіх выпадках пахваламі і вернападданьніцкімі одамі ў адрас партыі і ейнага кіраўніцтва, а ставілі і канкрэтныя патрабаваньні маскоўскім плянавым органам. Гэта дае магчымасьць меркаваць, як выглядаюць прынамся ў вачох рэспубліканскіх кіраўнікоў эканамічныя праблемы Беларусі. Праўда, і тут не абыходзіцца бяз цяжкасьцяў, бо выступленьні дэпутатаў не падаюцца ў савецкай прэсе поўнасьцяй, а толькі пераказваецца іхны зьмест. Гэтак, напрыклад, заходнія інфармацыйныя агенцтвы паведамлялі аб тым, што Старшыня Дзяржпляну БССР Малінін ў сваім выступленьні паставіў шэраг дамаганьняў Дзяржпляну СССР і асабліва падкрэсьліў недастатковае забясьпячэньне рэспублікі фінансавымі і тэхнічнымі сродкамі для разьвіцьця хэмічнай прамысловасьці і ў першую чаргу будаўніцтва прадпрыемстваў вытворчасьці штучных угнаеньняў. Аб гэтай важнай справе ў савецкай і цэнтральнай і рэспубліканскай прэсе чамусьці нічога ня было сказана. Некаму, відаць, залежыць, каб аб гэтым ня ведала шырокая грамадзкасьць.

Больш поўна быў пераказаны ў прэсе зьмест выступленьня Старшыні Савету Міністраў БССР Кісялёва. Кісялёў гаварыў аб нізкай якасьці тэкстыльных вырабаў, аб нядоўгавечнасьці і ненадзейнасьці машынаў і машыннага абсталяваньня, аб тым, што рэспубліцы штогоду выдзяляецца недастаткова сродкаў для ўпарадкаваньня гарадоў і раённых цэнтраў, для рамонту й абсталяваньня жыльлёвага фонду і будынкаў культурна-бытавога прызначэньня.

Шырэй Кісялёў спыніўся на паліўнай гаспадарцы рэспублікі. Выяўляецца, што маскоўскі цэнтр і тут ня ўлічвае патрэбаў Беларусі. Кісялёў закрануў справу знойдзенай у мінулым годзе высокаякаснай беларускай нафты. З папярэдніх газэтных паведамленьняў ведама, што пошукамі нафты ў Беларусі Масква зусім ня цікавілася. Рэспубліканскія геоляга-разьведвальныя арганізацыі праводзілі пошукі на ўласную руку і на ўласны кошт. Цяпер нафта знойдзеная, і таму Кісялёў паставіў патрабаваньне маскоўскім арганізацыям, каб яны «аказалі неабходную дапамогу ў арганізацыі ейнай здабычы».

Найбольш увагі Старшыня Савету Міністраў БССР Кісялёў прысьвяціў на сэсіі Вярхоўнага Савету ў Маскве старой набалелай праблеме — праблеме асушэньня забалочаных земляў Беларусі. У гэтай справе ў розныя часы прымаліся розныя пастановы, але справа й дасюль не скранулася зь месца.

Першыя спробы асушэньня Палескай нізіны былі робленыя яшчэ ў царскія часы паводля пляну, распрацаванага ў 1872 годзе. Пры савецкай уладзе падобная пастанова была прынятая ў 1941 годзе. Паводля гэтага пляну, мэліярацыйныя працы былі разьлічаныя на 15 гадоў і мела быць асушана больш за 4 мільёны гэктараў балотаў. З прычыны вайны гэтыя працы ня былі разгорнутыя. Нічога не зрабіла і Польшча за часы свайго панаваньня ў Заходняй Беларусі, хоць спробы былі таксама. Праблема асушэньня Палескай нізіны зноў была пастаўленая ў 1952 годзе на XIX зьездзе кампартыі. Тадышні Старшыня Дзяржпляну СССР Сабураў гаварыў на партыйным зьездзе: «Пятым пяцігадовым плянам прадугледжваецца значнае

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

публікаў, а пасьля проста прысылалі іх на дубляваньне Вярхоўнымі Саветамі («парлямантамі»!) саюзных рэспублікаў. Цяпер, пасьля прыняцьця ведамых законаў 1957 году аб «пашырэньні правоў» саюзных рэспублікаў, гэты парадак крыху зьмянілі. Цяпер фармальна праект бюджэту абмяркоўваецца спачатку ў Савеце Міністраў рэспублікі, пасьля ў Савеце Міністраў СССР, пасьля гэтага Вярхоўны Савет СССР прымае «закон аб бюджэце», урэшце, гэты ўжо прыняты ў Маскве закон дублюецца ў Вярхоўных Саветах рэспублікаў, у тэй частцы, якая датычыць іх, рэспублікаў. Такім чынам, «сувэрэнныя» правы рэспублікаў ў галіне бюджэту зьведзеныя да правоў адміністрацыйна-выканаўчых. Фінансавыя органы рэспублікі — гэта філіялы Масквы для выкананьня бюджэту СССР у дадзенай рэспубліцы і для кантролю над захаваньнем агульнасаюзнай бюджэтнай дысцыпліны і правільным выдаткаваньнем сродкаў. Вось якраз у галіне гэтых адміністрацыйна-выканаўчых функцыяў і адбылося расшырэньне бюджэтных правоў рэспублікаў. Адзін іхны павярхоўны пералік паказвае, наколькі яны мізэрныя нават пасьля пашырэньня. Саветы міністраў саюзных рэспублікаў атрымалі права: 1) устанаўліваць і зацьвярджаць тытульныя сьпісы капітальнага будаўніцтва сваіх міністэрстваў (калі аб'екты саюзна-рэспубліканскага значэньня, дык яны маюць права зацьвярджаць да пяці мільёнаў рубёў праектнага кошту); 2) Зацьвярджаць, у межах устаноўленай для рэспублікі колькасьці і фонду зарплаты, штаты сваіх міністэрстваў і мясцовага дзяржаўнага апарату; 3)разьмяркоўваць, ужо ўсталеныя Масквой, прыбыткі і выдаткі свайго бюджэту; 4) павялічаць асыгнаваньні на капітальны рамонт жыльлёвага фонду мясцовых Саветаў, школаў, шпіталёў, дзіцячых установаў за кошт бюджэтаў рэспублікаў, у рамках акрэсьленых Масквой бюджэтных сыгнаваньняў. Міжволі паўстае пытаньне, у чым-жа палягалі раней бюджэтныя правы саюзных рэспублікаў, калі яны не карысталіся нават гэтымі пералічанымі правамі? Адзін савецкі аўтар, які прысьвяціў гэтаму пытаньню даволі доўгую і цікавую манаграфію, уважае, што адно з важных новых бюджэтных правоў саюзных рэспублікаў — гэта тое, што ў Дзяржбюджэт СССР бюджэты саюзных рэспублікаў улучаюцца толькі ў агульных сумах, а разьмеркаваньне прыбыткаў і выдаткаў паміж рэспубліканскімі і мясцовымі бюджэтамі праводзяць самі рэспублікі; але самае галоўнае, як думае аўтар, гэта тое, што ў Маскве «бюджэты саюзных рэспублікаў *толькі ўстаноўліваюць*, а не зацьвярджаюць, як гэта было раней, зацьвярджаюць іх самі рэспублікі».

Мы ўжо бачылі, у чым палягае гэтае маскоўскае «устаноўліваньне» і мясцовае «зацьверджаньне».

У сувязі з рэарганізацыяй кіраваньня прамысловасьці, усе прадпрыемствы на тэрыторыі дадзенай рэспублікі ўваходзяць у рэспубліканскі саўнаргас, незалежна ад таго, якога яны значэньня — агульнасаюзнага ці рэспубліканскага. Саўнаргасы фармальна падпарадкаваныя Саветам Міністраў саюзных рэспублікаў. Але куды ідуць адлічэньні ад прыбыткаў прадпрыемстваў саўнаргасаў? Савецкі падручнік фінансавага права дае такі адказ: «Адлічэньні ад прыбыткаў ідуць у бюджэт у залежнасьці ад падпарадкаваньня прадпрыемства: адлічэньні ад прадпрыемстваў саюзнага падпарадкаваньня ідуць у саюзны бюджэт, ад прадпрыемстваў рэспубліканскага падпарадкаваньня — у рэспубліканскі, ад прадпрыемстваў мясцовага падпарадкаваньня — у мясцовы бюджэт. Такім чынам, увесь прыбытак ад галоўнай і вядучай прамысловасьці дадзенай нацыянальнай рэспублікі ідзе проста ў Маскву! Тое-ж самае датычыць і падатку з абароту ў межах дадзенай рэспублікі. Гэты падатак, які складае галоўную частку чыстага прыбытку ад гандлю і рэалізацыі тавараў на тэрыторыі гэтай рэспублікі, таксама ідзе ня ў ейны бюджэт, а ў цэнтралізаваны фонд Масквы.

У савецкай прэсе шмат пішуць аб вялікім павялічэньні дзяржаўных бюджэтаў саюзных рэспублікаў. Ужо цытаваны намі савецкі аўтар гаворыць, што бюджэты саюзных рэспублікаў вырасьлі ад 24,1% — у 1940 г. да 55,7% — у 1962 г. ў дзяржаўным бюджэце СССР. Але пры бліжэйшым разглядзе пытаньня высьвятляецца, што гэтае павялічэньне толькі ўяўнае, зманліяае. Справа ў тым, што да рэарганізацыі кіраваньня прамысловасьці фінансаваньне і капіталаўклады ў прадпрыемствы агульнасаюзнага значэньня ў саюзных рэспубліках праводзілася непасрэдна праз цэнтральны бюджэт у Маскве, а цяпер, у сувязі з перадачай гэтых прадпрыемстваў у фармальнае падпарадкаваньне нацыянальных рэспублікаў, усе фінансавыя апэрацыі гэтых прадпрыемстваў таксама праводзяцца фармальна праз дзяржбюджэты нацыянальных рэспублікаў. Між іншым і сам савецкі аўтар намякае на гэта, калі заяўляе, што рост бюджэтаў рэспублікаў «абумоўлены мерапрыемствамі перабудовы кіраваньня прамысловасьцяй і будаўніцтвам, перадачай у сувязі з гэтым абсалютнай бальшыні прадпрыемстваў» саюзным рэспублікам.

*Абсалютны прыярытэт інтарэсаў мэтраполіі, адкрытае прызнаньне фармальнасьці нацыянальнага сувэрэнітэту саюзных рэспублікаў ў галіне эканомікі, падкрэсьленае адмаўленьне за імі права на нацыянальную ўласнасьць свайго-ж нацыянальнага багацьця, не нацыянальна-дзяржаўны, а вялікадзяржаўна-прагматычны падыход да палітыкі разьмяшчэньня вытворчых сілаў, капіталаўкладаў і фінансаваньня народнай гаспадаркі наагул — такая сутнасьць сёньняшняй нацыянальнай палітыкі партыі ў эканамічнай галіне.*

Нядаўна цэнтральны тэарэтычны і палітычны орган ЦК КПСС — часапіс «Камуніст» сфармуляваў гэтую палітыку ў чатырох тэзісах, у якіх адкрыты цынізм вялікадзяржаўнікаў гучыць ня толькі як загад, але і як грознае папярэджаньне супраць тых, хто свае рэспублікі запраўды ўважае «сваімі» (нездарма сам Ільічоў бярэ ў двукосьсе гэтае слова). Гэтыя тэзісы наступныя: 1)у нацыянальных рэспубліках «трэба строга захоўваць прыярытэт агульнанародных (г. зн. маскоўскіх — А. А.) інтарэсаў», 2) «эканамічныя ўстоі кожнай рэспублікі трымаюцца на дзяржаўнай сацыялістычнай уласнасьці, якая належыць не аднэй якой-небудзь нацыі, а ўсяму савецкаму народу», 3) фэтышызацыя нацыянальнага сувэрэнітэту, вузкае разуменьне нацыянальных інтарэсаў могуць прынесьці толькі шкоду» і 4) *сродкі павінны ўкладывацца туды, дзе дзяржава можа атрымаць пры найменшых затратах, найбольшы эканамічны эфэкт».*

*Такім чынам, у галіне эканамічнага разьвіцьця нацыянальных рэспублікаў партыя кіруецца ня былымі ейнымі ўрачыстымі дэклярацыямі і не пастановамі X і XII зьездаў аб пераважным разьвіцьці эканомікі адсталых нерасейскіх народаў, а эканамічнай эфэктоўнасьцяй капіталаўкладаў і ваеннастратэгічнай мэтазгоднасьцяй выбіраных раёнаў індустрыялізацыі. Таму курс на індустрыялізацыю СССР прывёў не да зьменшаньня, а да павялічэньня дыстанцыі ўва ўзроўні эканамічнага разьвіцьця, папершае, паміж Расеяй і нацыянальнымі рэспублікамі, падругое, паміж самымі нацыянальнымі рэспублікамі. Гэтая ўзрастаючая нераўнамернасьць у эканамічным разьвіцьці нацыянальнасьцяў СССР і сьведамае ігнараваньне прынцыпу прапарцыянальных інвэстыцыяў капіталу сярод фармальна раўнапраўных рэспублікаў прывялі да таго, што ў СССР існуе шэраг нацыянальных рэспублікаў, якія зусім справядліва могуць быць залічаныя да «маларазьвітых краінаў» (Нацыянальны Казахстан, Кіргізія, Беларусь, Таджыкістан, Туркмэністан, Узбэкістан і амаль усе аўтаномныя рэспублікі). Гэтак партыя дасягнула свайго галоўнага эканамічнага заданьня — пэратварэньня эканомікі нацыянальных рэспублікаў у інтэграваную, непадзельную частку сыравінных прыдаткаў і паўфабрыкатаў агульнадзяржаўнай эканомікі. Цяпер яна намагаецца дасягнуць выкананьня другога, ужо галоўнага палітычнага заданьня — інтэрнацыяналізацыі эканомікі нацыянальных рэспублікаў шляхам арганізацыі сюды масавай міграцыі чужаземнай працоўнай сілы.*

(Далей будзе)

# Бэсэсэраўскі бумэранг

Даволі часта ў бэсэсэраўскім друку мы можам сустрэцца з асьветчаньнем, нібы ў краінах «капіталу» прыродныя багацьці зьнішчаюцца ў драпежны спосаб, а ў Савецкім Саюзе й тым больш у БССР яны захоўваюцца або выкарыстоўваюцца з «эканамічным» ці «навуковым» разьлікам. Пра гэта не забыўся сказаць і старшы навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР М. Нікіценка. У нататках «Багацее фаўна рэспублікі» ён піша: «У грамадзтве, дзе пануе прыватная ўласнасьць і пагоня за прыбыткамі, бязьлітасна зьнішчаецца ўсё, што можа быць пераведзена на грошы: землі, лясы, жывёлы, птушкі, мінэральныя багацьці й г. д.... У нашай краіне выкарыстаньне прыродных расьлінных і жывёльных рэсурсаў ажыцьцяўляецца на аснове глыбокіх навуковых дасьледваньняў» («Зьвязда», 26. I. 1965 г.).

Пакінем збоку гэтыя краіны «капіталу», бо яны неяк даюць сабе рады. Зьвернемся да БССР.

Хто мог сачыць за бэсэсэраўскай прэсай, той мог часта сустракацца з выказваньнямі на ейных балонах народнага гневу з тае прычыны, што беларускія лясы зьнішчаюцца ў рабаўнічы спосаб. У сувязі з гэтым тут пісалася, што там, дзе яшчэ да вайны стаялі масавы дрымучых лясоў і пушчаў, цяпер мазоляць вока самыя звычайныя хмызьнякі ды сыпучыя пяскі. Перасохлі й перасыхаюць рэкі й рачулкі, спадае вада ў вазёрах, а раней сакавітыя лугі пакрываюцца сіўцом і іншай мала-якаснай травой. З гэтае прычыны ў канцы 1961 году быў прыняты «Закон аб ахове прыроды ў Беларускай ССР», аднак і ён не зьмяніў становішча. Папершае, гэты закон спазьніўся, а, падругое, ён ня мае дзейснай сілы, калі ня лічыць застасаваньня яго да малых крадзежаў прыватнага характару. У тэй-жа «Зьвязьдзе» ў 1964 годзе паведамлялася дасьветчанымі навукоўцамі й эканамістымі, што ў БССР сьпелых і некранутых лясоў засталося фактычна толькі 4% ўсяго ляснога масыву. Аднак, ня гледзячы на такое катастрафальнае становішча, зьбяднелыя беларускія лясы ўсьцяж вынішчаюцца рознымі дзяржаўнымі высечкамі й нарыхтоўкамі. Яны плывуць на Ўкраіну і ў Балтыцкае мора.

Бясспрэчна, шмат шкоды беларускім лясам спрычынілі нямецкія акупацыйныя ўлады падчас вайны. Як ведама, яны загадалі павысякаць лясы паабапал важнейшых шляхоў і чыгунак да 200 мэтраў у глыбіню й на тысячы кілямэтраў у даўжыню. Апрача гэтага праводзілася сыстэматычная высечка лесу для вывазу ў Нямеччыну. Пасьля вайны павінны былі адбудавацца тысячы спаленых беларускіх вёсак і прадпрыемстваў. Аднак усё гэта не магло ў такой ступені пашкодзіць беларускім лясам, каб іх давесьці да 4% іхнай вартасьці. Як сьцьвярджалася ў самой бэсэсэраўскай прэсе, галоўным шкоднікам гэтых лясоў былі й застаюцца савецкая «штурмоўшчына», бесгаспадарнасьць, безадказнасьць партыйных босаў, пляны нарыхтовак ды звычайны рабунак.

Напрыклад, як і ўва ўсім Савецкім Саюзе, цяпер у БССР прынялі пастанову «Аб мерах па стварэньню культурнай пашы й паляпшэньню прыродных кармавых угодзьдзяў у калгасах і саўгасах рэспублікі». Гэтае «стварэньне культурнай пашы» прадбачвае таксама й стварэньне «абгароджаных загонаў». З гэтае прычыны пастанова ЦК КП і Савету Міністраў Беларусі забавязвае «Аблвыканкомы штогод выдзяляць калгасам і саўгасам лесарубныя фонды... для нарыхтоўкі жэрдкаў і слупкоў для абгароджваньня загонаў і прагонаў на пашы». Ведама, частку патрэбных жэрдкаў можна прыдбаць у хмызьняках ці высечы ў лясных масывах без якое-колечы шкоды для іх. Аднак-жа, маючы на ўвазе ведамую савецкую штурмоўшчыну, і гэтая «жэрдкавая штурмоўшчына» спрычыніць многа шкоды беларускім лясам, і перадусім зьнішчыць маладыя насаджэньні. Вось-жа, падобна, як «боязь трапіць у лік травапольшчыкаў прывяла да таго, што сям-там пасьпяшаліся пераараць навет тыя нязначныя плошчы акультуранай пашы, якія былі» («Зьвязда», 26. I. 1965), дык і новая «боязь застацца без абгароджаных загонаў» прывядзе да зьнішчэньня ці зьбядненьня лясоў.

У газэце «Советская Белоруссия» (з 28. I. 1965 г.) зьмешчаныя нататкі В. Старцава пад назовам «На суд грамадзкасьці». У іх паведамляецца, што без якой-колечы прычыны ў вадным толькі Баранавіцкім раёне за апошнія гады зьнішчана больш за 50 вазёраў і сажалак. В. Старцаў піша: «Каля вёскі Люшнева, прыкладам, у валоданьнях калгасу «I Мая» была створана самой прыродай і ўдасканалена рукамі чалавека сыстэма вазёраў. Іх было дзевяць, спалучаных між сабой невялікімі шлюзамі. У гэтых вазёрах гадавалі карпаў. Ад гэтага было шмат карысьці й калгасу й калгасьнікам. Але вось апошнім часам тут кожны год разбураліся па аднаму-два возеры. Апошняе спушчанае ў кастрычніку мінулага году. Цяпер мясьціны былых вазёраў наводзяць прыгнечанае ўражаньне... Калісьці чароўны куточак прыроды зуродаваны да непазнаньня. Так палічыў патрэбным зрабіць кіраўнік гаспадаркі Ўладзімер Андрэевіч Макарэвіч».

I далей В. Старцаў піша: «Або вось. Вялікімі й прыгожымі былі вазёры каля пасёлку Палонка й вёскі Серкі. Яны таксама зьніклі. Так пажадаў дырэктар саўгасу А. М. Бачурын. Жыхары Палонкоў й Серкаў у вялікай крыўдзе. Але гэтая крыўда ня турбуе дырэктара.

Нам думаецца, што гэтыя два «савецкія феадалы» паставіліся ў такі барбарскі спосаб да прыроды з тым разьлікам, каб з дна гэтых вазёраў здабыць некалькі тонаў ілу для «хрушчоўскае каралевы» — кукурузы. Інакш гэтыя іхныя дзеяньні вытлумачыць цяжка. Гэты прыклад «супрацьвазёрнае акцыі» ў Баранавіцкім раёне, якая, бязумоўна, у роўнай ступені практыкуецца і ў іншых раёнах БССР, у найлепшы спосаб разьбівае вышэй зацытаваную тэзу М. Нікіценкі ды сьветчыць пра тое, як дзіка й рабаўніча адносяцца савецкія ўлады БССР да прыроды й прыродных багацьцяў.

**П. Залужны**

# Разьвееная рамантыка

Рэпартаж «Адкуль бяруцца дэзэртыры», надрукаваны ў савецкай газэце «Ленінская смена» з 22. XII. 1964., ушчэнт разьбівае «рамантыку цаліны».

У рэпартажы адкрыта пішыцца аб галечы, у якой жыве моладзь, што прыязджае на цаліну, аб масавых уцёках моладзі і захадах, робленых цалінннымі чыноўнікамі, каб спыніць гэтыя ўцёкі.

Яшчэ па дарозе на цаліну ў моладзі адбіраюць дакуманты.

«Паводля нейкага ціхага пагадненьня паміж чыноўніцкімі душамі, што ня вераць ні ў бога, ні ў чорта, а толькі ў дакумант, выпускнікам школы мэханізацыі не даюць у рукі атэстаты. Іх атрымлівае майстар і, перавязаўшы шпагатам, хавае пад замок да месца прызначэньня. У саўгасе другая кроўная душа атрымлівае атэстаты пад расьпіску і „хавае" ў цяжкім сэйфе. Гэта, маўляў, першае папярэджаньне: захочаце ўцячы — ня выйдзе, дакуманты пад сямю пячацямі».

Але моладзь выязджае і без дакумантаў. Чаму? Адказам на гэтае пытаньне можа быць лёс 60 маладых мэханізатараў зь Беларусі. Першымі выехалі тыя, хто «вясну пракруціўся за рамонтам разьбітага папярэднікам камбайну і запрацаваў — на сталовую ня хопіць». Увосені з 60 засталося 5 чалавек. Аб тым, чаму яны ўцяклі з цаліны, чытаем наступнае:

«Знасілася сіняя форма, марны заробак на другарадных працах ужо праедзены, і цётка Маша з брыгаднай сталоўкі адмаўляецца карміць „на крэдыт". Калі летам разьбітыя вокны ў інтэрнаце цудоўна рэгулявалі тэмпэратуру, дык цяпер даводзіцца накрывацца матрасам...»

Як відаць з рэпартажу, маладыя мэханізатары мала зарабляюць таму, што ім даюць няспраўныя трактары, пасьля рамонту забіраюць іх і даюць наступныя трактары:

«Брыгадзір Андрэй Брус паказаў ім на папсуты „ДТ-54" і прамовіў: „Адрамантуеце — будзеце сабе араць".

З трактарам вазіліся дзён дваццаць. Пасьля направілі плуг. І правялі па зямлі сваю першую баразну.

Пасьля брыгадзір забраў трактар і аддаў яго практыкантам, якія прыехалі з Кубані. Хлопцы даведаліся — за бутэльку водкі. А ім даў лапаты: „Будзеце працаваць на таку". Хлопцы паехалі на цэнтральную сядзібу і паскардзіліся галоўнаму інжынеру В. Мечыну. Пасьля — дырэктару Ф. Штэйзэлю. Хлопцаў выгналі з кабінэту».

Двух хлопцаў тры месяцы жылі на 56 рублёў, якія зарабіў Анатоль, і на дваццаціраблёвы аванс, выданы Віктару. Тыднямі ня бачылі цёплай стравы. Раз у дзень бралі ў пякарні булку хлеба. Забыліся, што такое лазьня, чыстая пасьцель, сьвежая кашуля. У інтэрнаце — холад, клапы, няма сьвятла. На камсамольскіх сходах ім не далі выступіць: „Ня хуліганьце!"

Уцяклі ўсе, гаворыцца ў рэпартажы. А чаму ня выехалі гэтыя пяць хлопцаў? Адказ быў просты: «Няма за што». Няма каму прыслаць ім 30 рублёў на дарогу.

(Паводля «Інфармацыйнага Бюлетэню» Радыя «Свабода»)

# Беларуская цаліна й іншыя справы

(Заканчэньне з 3-ай бач.)

пашырэньне працаў над асушэньнем балотаў у Беларускай ССР, у першую чаргу ў раёнах Палескай нізіны». Але і з гэтага нічога ня выйшла. Пра асушэньне забалочаных земляў Беларусі загаварылі зноў у сувязі з праектам Чарнаморска-Балтыцкага каналу, паўночная частка якога мела праходзіць праз Беларусь. Але гэты праект застаўся пакуль-што таксама толькі праектам.

Зь беларускага боку пры розных нагодах падавалася абгрунтаваная аргумантацыя эканамічнай выгаднасьці асушэньня балотаў Беларусі. Ад паўтарэньня гэтых аргумантаў пачаў і Кісялёў, зноў узьняўшы пытаньне асушэньня на апошняй сэсіі Вярхоўнага Савету СССР. Адзначыўшы, што «у Беларусі ёсьць значныя працоўныя рэсурсы», Кісялёў гаварыў:

«Аб важнасьці асушэньня пераўвільготненых земляў мы ставілі пытаньне неаднаразова. Плошчы залішне ўвільготненых земляў, якія патрабуюць асушэньня, складаюць каля сямі мільёнаў гэктараў».

«Між тым забалочаныя землі — патэнцыяльна высока ўрадлівыя і зьяўляюцца вялізарным рэзэрвам павялічэньня вытворчасьці прадуктаў сельскай гаспадаркі».

«Вядома, абавязковай умовай атрыманьня высокіх ураджаяў на асушаных землях зьяўляецца ўнясеньне ў глебу неабходнай колькасьці мінэральных угнаеньняў».

«Сродкі, якія затрачваюцца на мэліярацыю, — гаварыў далей Кісялёў, — даюць выключна высокі эканамічны эфэкт і хутка акупляюцца».

Як адзначыў і сам Кісялёў, з гэтымі прапановамі прадстаўнікі Беларусі выступаюць у Маскве ня першы раз. Але ў той час, як мільярдныя сумы непрадуктыўна выкідаліся на акцыю асваеньня цалінных земляў Сібіру і Казахстану, эканамічна абгрунтаваныя прапановы Беларусаў ня былі ўзятыя пад увагу. 7 мільёнаў гэктараў высокаякасных забалочаных земляў на Беларусі чакае зразуменьня з боку імпэрскага цэнтру.

Няма сумлеву, што калі-б Беларусь самастойна распараджалася сваім нацыянальным багацьцем, усе пералічаныя тут праблемы можна было-б вырашыць. Але бяда ў тым, што Масква бескантрольна распараджаецца нацыянальным багацьцем усяго Савецкага Саюзу і разьмяркоўвае капітальныя сродкі так, як ён падабаецца.

На заканчэньне адзначым, што ажыцьцяўленьне такога вялікага мерапрыемства, як асушэньне наводненых раёнаў Беларусі, справа складаная і павінна была-б праводзіцца прадумана. Ведама, да чаго прывяла неразважная штурмаўшчына з асваеньнем цалінных земляў — да эрозіі глебы, пяшчаных бураў — і, заміж карысьці, прынесла страты. Таму і вялікае зьменшаньне воднага балянсу на Беларусі магло-б даць катастрафальныя вынікі. Вада, якая рэгулюе клімат, павінна быць захаваная ў рэзэрвуарах, але гэта праблемы тэхнічнага парадку і спэцыялістыя павінны былі-б ведаць як іх найлепш разьвязаць.

**М. Кручкоўскі**

# Беларуская паэзія на ангельскай мове

У 1964 годзе зьявіліся ў ангельскай мове тры вершы беларускіх паэтаў, усе ў перакладзе ангельскай паэткі Веры Рыч.

Ангельскі часапіс „Manifold" ў сваім адзінаццатым нумары зьмясьціў верш А. Вялюгіна «Лясное возера». У зімовым нумары амэрыканскага часапісу „The Muse" быў зьмешчаны верш М. Багдановіча «Зімой». У другім нумары іншага амэрыканскага часапісу „SCTH" паявіліся пераклады 3-га і 4-га «танкаў» (імітацыі японскіх вершаў) М. Багдановіча.

Гэта былі ня першыя пераклады Верай Рыч твораў беларускіх паэтаў на ангельскую мову. Ужо ў 1960 годзе ў зборніку ейных твораў „Outlines" быў зьмешчаны мастацкі пераклад «Песьні званоў» з паэмы «Сымон Музыка». Я. Коласа. У зборніку твораў маладых ангельскіх паэтаў за 1961 год (Collected Poems 1961, Ventures Press, Hull), мы бачым пераклады ўступу да «Сымона Музыкі» Я. Коласа «Ад роднае зямлі» і «Зоркі Вэнэры» М. Багдановіча.

У выданьні 1962 году гэтага самага зборніка Вера Рыч зьмясьціла свае пераклады »О край родны» з «Сымона Музыкі» Я. Коласа і «Ты прыдзі» Я. Купалы.

Дарэчы тут прыгадаць два вельмі ўдалыя вечары — у Лёндане і ў Брадфардзе — прысьвечаныя паэзіі Я. Купалы, ладжаныя Верай Рыч увосень 1962 году.

Было-б вельмі пажаданым, каб паэтка магла хутчэй выдаць асобнай кнігай анталёгію беларускай паэзіі ў ангельскай мове.

*Масей Сяднёў*

# РАМАН КОРЗЮК

**(ПРАЦЯГ)**

Кандраценя бачачы, што яму не разьвесяліць Корзюкаў, упару спахваціўся і перайшоў на другое:

— Яно, канечне, не да тваё гарэлкі, Шаркевіч! Дзякуем за гасьціннасьць, але перад намі яшчэ самае галоўнае.

Не пасьпелі госьці вылезьці з-за стала, як з каморак вылецілі меншыя дзеці Шаркевіча і накінуліся на ўсё, што засталося на блясе і ў місках.

Савоста Корзюк ішоў у стадолу радзіцца. Валя Камоцкая хацела была застацца ў хаце, але Савоста запрасіў і яе:

— Маці наша назвала вас дачкой, значыць, вы заслужылі гэтага, хадзеце з намі, дачка!

У Валі Камоцкай пацяплела на сэрцы, а Раман засароміўся, хоць і быў рады, што ўсё так добра зышло зь ім і Валяй.

У стадоле на сене Савоста шэптам гаварыў, што ўжо, відаць, суджана так ім сыйсьціся разам і разам пайсьці далей. Пытаўся маці, ці яна хоча ісьці. Маці, уздыхнуўшы, адказала згодаю, хрысьцячыся пра сябе ў цемры. Усе ўсьведамлялі рызыку і сэрцы ўсіх сьмяглі трывогай, сполахам і надзеяй. Корзюк-маці ў міласьлівым узбуджэньні абнімала і туліла ўсіх аднaчасна, толькі не магла, як ёй хацелася-б, і яна моцна трымала толькі за руку Рамана, нахіляючыся да мужа. Потым туліла дачку, прасіла Валю сесьці да яе бліжэй. Толькі-ж Раман другою сваёю незанятаю рукою прыціскаў да сябе Валю, шукаючы ейных вуснаў. Валя вызвалялася ад Рамана і прыціскалаяся бліжэй да маці.

Так усе й заставаліся адзіным гняздом пад прыкрыцьцем ночы, балесныя, аднaзгодныя. У вадным як-бы была толькі нязгода: маці хацела, каб мяжу пераходзіць усім разам, а не двумя групамі, як прапануе Шаркевіч, але-ж гэта нязгода была ня чым іншым, як толькі адзінствам.

Найболей-жа можа засмуціла старых Корзюкаў Валіна нязгода: яна *не захацела* ісьці з сям'ёй Корзюкаў за мяжу. У душы Корзюк-маці нечакана вырас новы боль — боль *за сына*, і сэкунду яна заставалася навет няпрыхільнай да Валі, але потым адумалася і зноў абняла яе.

— Што-ж, можа й грэх цягнуць цябе з сабою.

— Я ўсё роўна буду разам з вамі, дзе-б я ня была! Але, як у вас, у мяне таксама свая доля. А з Раманам, маці, мы заўсёды такія — то ён, то я не згаджаюся. Дазвольце мне пабыць з вамі, пакуль не разьвітаемся. І я пайду сваёй дарогай. А на мяне, маці, ня злуйся.

Раман дрыготліва трымаўся рукой за Валіна калена, не хацеў адклейвацца і, відавочна, ісьці зь сям'ёю. Гэта вычула Валя адразу. Баючыся Раманавага хістаньня, дыхаючы гарачынёй на ягонае вуха, Валя знарок, тут-жа разсказала Раману аб выступленьні Мялешкі на агульным сходзе і аб лісьце Саланевіча. Пра гісторыю з сакваяжыкам яна й слова не сказала, а Раман не пытаўся.

Тымчасам Кандраценя, перагаварыўшы усё з Шаркевічам, прыйшоў клікаць Корзюкаў. Ціха, жартлівым тонам паведаміў, што ўжо сэмафор адчынены і дарога чакае на іх.

Корзюкі і Валя Камоцкая выйшлі з стадолы.

— З Богам, даражэнькія! — сказаў Генадзі і з усіма абняўся накрыж. — Яшчэ пабачымся, ня тужэце!

Валя Камоцкая пры ўсіх абняла Рамана. Раман на нейкі час затрымаў Валіну руку у сваёй.

— Значыць, Ромка, разьвітваемся...

І ўжо зьвярнуўшыся да іншых:

— Прашу не турбувацца, я знайду дарогу сама, — бокам неяк аддалілася і зьнікла ў цемры Валя.

— Будзь шчасьліва, — сказала Корзюк-маці ўсьлед.

— Ну, вы гатовы, пане Шаркевіч?

— Гатоў...

— Шчасьці! Пераходзь там, дзе ўмовіліся!

10.

Начзаставы позна ўначы сядзеў у сваім габінэце, вывучаючы сакрэтныя дадзеныя, толькі што атрыманыя ім з Менску. Згодна тым дадзеным, у зоне ПЧ, пасьля поўначы, недзе каля трэцяй гадзіны, мае перайсьці савецка-польскую мяжу група ўзброеных савецкіх грамадзян-тэрарыстых на чале з правадніком-прафэсіяналам. Да ўспомненай групы, што нібыта складаецца з аднае сям'і, магчыма, далучацца ў тым-жа самым месцы яшчэ некалькі чалавек, сяброў аднае арганізацыі, зьвязанай з дэфэнзывай. У паведамленьні прасілі своечасова запабегчы гэтаму, з тым, каб затрымаць групу жывой, як вельмі важную з палітычнага гледзішча.

Начзаставы не ўпяршыню атрымваў падобныя шыфроўкі, — гэта, можна сказаць, было ягоным штодзённым хлебам, — але гэтым разам, нейкім сваім шостым пачуцьцём пагранічніка, ён чамусьці ўзяў пад сумлеў верагоднасьць павядомленага. Нешта было ў гэтым паведамленьні такое, што надавала гэтай справе зараней сплянаваны характар. Шыфроўка здалася начзаставы занадта нейкай палітычнай. Гэтая акалічнасьць якраз і насьцярожвала начзаставы. Ён ня ведаў запраўдных намераў інстанцыі, якая паведамляла й загадвала яму. З практыкі ён ведаў, што такія апэрацыі небясьпечныя для абодвых бакоў: як для тых, хто ідзе на «ліквідацыю» іх, так і для яго самога. Справакаваны пагранічнік, — хоць-бы справакаваны сваімі-ж, — ужо не пагранічнік. Ты мусіш выканаць тое, што табе загадваюць, хоць-бы ты й быў перакананы, што загад — чысьцейшая правакацыя. На пагранічча заўсёды трэба з гэтым лічыцца — такая ўжо тут завядзёнка. Як правіла, ты ўсё мусіш браць пад сумлеў, але, як правіла, усё мусіш выконваць, — як-бы й запраўды, апэрацыя мае адбыцца ў рэальнасьці так, як яна распісаная табе ў паведамленьні-загадзе. Ад дакладнага выкананьня заданьня — рэальнага ці нерэальнага — залежыць посьпех усёй працы на пагранічча. Гэта нічога, што твая апэрацыя акажацца «пустой» у сэньне выніку, затое ў другой зоне яна акажацца рэальнай. Або, наадварот, табе выпадзе тая «рэальнасьць», і тады ты мусіш зь ёю справіцца... Пра ўсё гэта начзаставы добра ведаў і паставіўся да апэрацыі самым сур'ёзным спосабам.

На апэрацыю ў зону ПЧ пайшлі самыя выпрабаваныя людзі, гатовыя на ўсё і адпаведна заданьню ўсім забясьпечаныя.

Начзаставы, увесь час знаходзячыся ў сваім габінэце, трымаў з канвоем сталую лучнасьць. Канвой, як называлася падразьдзяленьне накіраванае ў зону, бесьперапынна рапартаваў начзаставы. Зона ПЧ знаходзілася ў лясной паласе, і гэта рабіла заданьне асаблівва цяжкім. Атрыманую інфармацыю начзаставы перадаваў у суседнія з ПЧ зоны.

# Агульны сход Згуртаваньня Беларусаў штату Ілінойс

27 студзеня ў Чыкаго адбыўся Агульны Гадавы Сход сяброў Згуртаваньня Беларусаў Штату Ілінойс. На парадку дня стаяла справаздача Ураду Згуртаваньня з дзейнасьці за мінулы 1964 год, справаздача аб стане касы Згуртаваньня, выпрацоўка праграмы ўрачыстага сьвяткаваньня чарговых угодкаў 25-га Сакавіка, справа дапамогі Беларускай сэкцыі Мадрыдзкага радыя, а таксама перавыбары Ўправы і Рэвізыйнае Камісіі ды вольныя прапановы.

Справаздача Ўраду Згуртаваньня была ўхваленая Сходам і сябром Ураду была выказаная падзяка за праведзеную імі працу.

Адносна Рэвізійнай Камісіі было выказанае патрабаваньне, каб ў будучыні яна, ня гледзячы на тое, што Ўрад звычайна карыстаецца поўным даверам, прынамся раз у год праводзіла поўную рэвізію дзейнасьці Ўраду Згуртаваньня і пратакол рэвізіі падавала на разгляд Агульнага Сходу.

Ураду Згуртаваньня даручана выпрацаваць і падрыхтаваць праграму ўрачыстага адзначэньня чарговага Дня Незалежнасьці Беларусі, у прыватнасьці, апавесьціць аб сьвяткаваньні ў чыкагскай беларускай і іншамоўнай прэсе, а таксама паведаміць аб сьвяткаваньні гарадзкія і штатныя ўлады.

Перад абмеркаваньнем справы дапамогі Беларускай сэкцыі Мадрыдзкага радыя, скарбнік Згуртаваньня прачытаў лісты кіраўніка сэкцыі сп. Я. Сурвілы, зь якіх вынікала неабходнасьць працягваньня дапамогі. Удзельнікі Сходу аднагалосна выказаліся за далейшае грашовае падтрыманьне сэкцыі ў суме 600 даляраў у год. Яны выказалі свой жаль, што іншыя грамадзкія арганізацыі і асобы, якія знаходзяцца ў добрым матарыяльным стане, ня спрычыніліся да гэтага часу да падтрыманьня гэтай важнай нацыянальнай пазыцыі — беларускіх радыя-перадачаў з Мадрыду.

На жаданьне сяброў Згуртаваньня Управа і Рэвізыйная Камісія арганізацыі будзе працягваць сваю працу ў 1965 годзе ў папярэднім складзе.

У вольных прапановах бадай што ўсе прысутныя забіралі голас на розныя тэмы і падалі шэраг прапановаў у справе пашырэньня засягу і ўзмацненьня эфэктоўнасьці Згуртаваньня. Прысутны госьць, генэрал Дзямідаў, таксама падаў шэраг праектаў. У выніку было пастаноўлена, што Згуртаваньне будзе праводзіць у трэцюю сыботу кожнага месяца агульныя сходы сяброў з дакладамі на розныя тэмы. Запраектавана вясною, летам і ў цёплыя васеньнія дні рабіць за местам супольныя «пікнікі».

**Я. Ч.**

# Праўда вочы коле

Часта ўзьнікае пытаньне, ці радыястанцыі, якія вядуць свае перадачы з заходніх краінаў для народаў на тэрыторыі Савецкага Саюзу, дасягаюць свае мэты, ці гэтыя перадачы даходзяць да слухачоў. Што на гэтае пытаньне можна адказаць пазытыўна, сьветчыць тое, што савецкая прэса апошнім часам усё часьцей зьмяшчае матарыялы з атакамі на замежныя радыястанцыі. Зласьлівы тон савецкіх артыкулаў гаворыць аб тым, што радыяперадачы, а таксама літаратура, якая трапляе ў СССР, ствараюць шмат клопатаў камуністычнай прапагандзе.

Вось адзін з апошніх прыкладаў. Газэта «Чырвоная зьмена», орган камсамолу Беларусі, у нумары з 24-га студзеня сёлета, пісала:

«Цэлы акіян гэтай хлусьні вылівае ў эфір радыястанцыя «Свабода», якая вяшчае (!?) свае праграмы праз дзевяць перадатчыкаў. Усе яны разьмешчаны ў ФРГ (гэта значыць ў Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы — Рэд), недалёка ад Мюнхену. Спэцыялістыя па антысавецкай прапагандзе, якія служаць гэтай радыястанцыі, вядуць перадачы на розных мовах народаў Савецкага Саюзу.

«Балбатуны не абыходзяць сваёй увагай і нашу рэспубліку, часта прыцягваючы да выступленьняў буржуазных беларускіх нацыяналістаў, якія, закасаўшы рукавы, адпрацоўваюць атрыманыя ад імпэрыялістычных разьведак доляры, маркі, фунты. Акрамя таго, нацыяналістычны зброд выдае свае друкаваныя лісткі, у якіх любымі шляхамі імкнецца паклёпнічаць на нашых людзей і тым самым перашкодзіць выхаваньню новага чалавека...

«Напрыклад, у часе апошніх выбараў прэзыдэнта ЗША беларускія нацыяналістыя ў Амэрыцы заклікалі амэрыканцаў беларускага паходжаньня аддаваць свае галасы за Голдўотэра. Яны ўсяляк расхвальвалі яго ў сваіх выступленьнях і па радыё».

Апошні абзац гэтай цытаты паказвае, што аўтар артыкулу, нейкі В. Крылоў, прафэсыйны даношчык і правакатар, але не азнаёмлены з умовамі на Захадзе. Ён, бачна, думаў, што сваімі нацёкамі на Голдўотэра выкліча нянавісьць да беларускай эміграцыі з боку цяперашняй амэрыканскай дэмакратычнай адміністрацыі, ачольванай Джонсанам. Правакатар В. Крылоў ня можа сабе, відаць, і ўявіць, што ў Амэрыцы кожны можа галасаваць за каго хоча і за гэта нікога не расстрэльваюць і ня высылаюць ў Аляску. Амэрыка застаецца Амэрыкай, але й Савецкі Саюз неахвотна мяняе старыя навыкі...

**А. З.**

# Яшчэ пра залежы на Беларусі нафты й газу

У газэце «Ізвестія» з 15 студзеня гэтага году ў артыкуле пад загалоўкам «Вялікая нафта Беларусі» вучоныя БССР апісваюць знойдзеныя і пэрспэктыўныя залежы нафты й прыроднага газу на беларускай тэрыторыі. З увагі на кваліфікаванасьць артыкулу, перадрукоўваем зь яго даўжэйшыя вытрымкі.

«Нядаўна да ліку нафтаносных раёнаў сьвету прыбавілася і наша Беларусь. Два фантаны высокаякаснай нафты, якія пачалі дзейнічаць каля гораду Рэчыцы, даюць 500—600 тонаў на суткі — цэлы эшалён нафты. Пакуль-што гэта толькі пошукавыя, разьведвальныя шчыліны. Правізарычныя досьледы паказалі, што магутнасьць нафтавых і газавых пластоў вельмі значная. Эксплятаваць іх можна доўга.

Рэчыцкая нафта атрыманая з дэвонскіх адкладаў з глыбіні каля двух кіляметраў. Залежы тут нагадваюць пластавы пірог: нафтаносныя гарызонты чаргуюцца з пластамі соляў. Паводля сваіх паказьнікаў новая нафта найбольш падобная да знамянітай бакінскай. Для яе характэрная вялікая частка (да 35 працэнтаў) вартасных бэнзынавых фракцыяў. Тут растворана шмат спадарожных газаў, якія могуць быць добрай сыравінай для хэмічнай прамысловасьці.

Усё гэта дае падставы ацэньваць пэрспэктывы прамысловага выкарыстаньня толькі адных Рэчыцкіх залежаў вельмі высока. Прамысловая нафта, як паказваюць геалягічныя матарыялы, можа быць атрыманая таксама і на іншых нафтавых структурах. А яны займаюць значную плошчу ў паўдзённай частцы Беларусі — у гэтак званай Прыпецкай нізіне. Цяпер усё залежыць ад удасканаленьня тэхналёгіі сьвідраваньня і мэтадаў дасьледваньня шчылінаў, якія раней мелі паважныя недахопы...»

«...у Беларусі, побач з фарсаваньнем пошукава-разьведвальных працаў на новых пэрспэктыўных структурах Прыпецкай нізіны, неабходна вярнуцца і да іншых структураў. Да такіх, дзе былі выяўленыя адзнакі нафтагазаноснасьці, але дасьледваньне іх або не праводзілася, або ажыцьцяўлялася зусім нездавальняюча. Гэты аналіз і некаторыя дадатковыя пошукі могуць даць новыя і, магчыма, вельмі пазытыўныя вынікі.

На нашу думку, Берасьцейская, Аршанская Плацка-Віцебская нізіны — вельмі пэрспэктыўныя ў нафтагазаносным дачыненьні.

Атрыманьне прамысловых залежаў нафты ў паўдзённай частцы БССР — вынік пацьверджаньня папярэдніх прагнозаў вучоных і ажыцьцяўленьня рэкамэндацыяў нарадаў, праведзеных у Акадэміі навук Беларусі пачынаючы ад 1959 году. У пастановах гэтых нарадаў адзначалася, што неабходныя комплексныя геоляга-геафізычныя досьледы вялікіх раёнаў, а не разьведка асобных структураў рэдкай сеткай шчылінаў. Якраз такая перабудова стратэгіі пошукаў і прывяла да адкрыцьця прамысловых запасаў нафты.

Прыпецкая нізіна Беларусі паводля сваіх патэнцыяльных рэсурсаў — буйная нафтагазаносная вобласьць з цэлым шэрагам нафтавых і газавых залежаў, прамысловыя запасы якіх трэба за найкарацейшы час дасьледваць і прыцягнуць да практычнага выкарыстаньня ў народнай гаспадарцы краіны...»

«Адкрыцьцё новых нафтавых залежаў, відавочна, прывядзе да перабудовы эканомікі ня толькі ў граніцах Беларусі і прыбалтыцкіх рэспублікаў, але і ў цэнтральных раёнах Расейскай Фэдэрацыі...»



# Ялінка ў Мэльбурне (Аўстралія)

У сыботу 9 студзеня стараньнямі настаяцеля а. Аляксандра Кулакоўскага й Царкоўнай Рады прыходу БАПЦ ў Мэльбурне ладзілася Калядная Ялінка для дзяцей.

З прыемнасьцяй трэба адцеміць, што арганізатары Ялінкі пастараліся зрабіць прыемнасьць ня толькі дзецям і моладзі, але й дарослым. Пасьля Ялінкі зь Дзедам Марозам, адбылася супольная вечарына з танцамі, якая працягнулася да позна, пакідаючы для ўсіх мілае, прыемнае ўражаньне.

Ялінка адбылася на Футскрэй у нанятай залі (нажаль, Беларусы Мэльбурну дагэтуль собскай ня маюць), якая ўжо а гадзіне 6-ай вечара напоўнілася дзяцьмі й дарослымі, што разьмясьціліся пры накрытых сталох залі. Сярэдзіна залі была пакінутая для гульняў дзяцей і для танцаў. Наперадзе залі — Ялінка, малая, але прыгожа прыбраная цацкамі і зіхацеючымі рознакаляровымі электрычнымі лямпачкамі.

Калі на залю ўвайшоў зь вялікім мяшком на плячох Дзед Мароз, вясёлыя гутаркі спыніліся, бо ўсе, а асабліва дзеці, што расселіся асобным кружком перад Ялінкай,ськіравалі сваю ўвагу на Дзеда Мароза і ягоны мяшок. З кійком у руках Дзед Мароз памаленьку абыйшоў навокал дзетак, прывітаў прысутных з Калядамі і Новым Годам, адзначыўшы, што гэтыя прывітаньні прынос іць ад дзетак і дарослых з далёкай Беларусі. А таму што змучыўся ў такой вялікай дарозе, прысеў сабе каля Ялінкі і пачаў расказваць аб Беларусі. Ён намаляваў беларускую зіму зь ейным сьнегам і марозам, зь ейнай прыемнасьцяй і турботамі, падкрэсьліў адменнасьць жыцьця ў Аўстраліі і пахваліў дзяцей, што вучацца пабеларуску, а асабліва, што ходзяць на лекцыі Закону Божага, праводжаныя а. Аляксандрам перад Багаслужбамі.

Калі Дзед Мароз спытаўся ў дзяцей ці хоча хто зь іх нешта сказаць або засьпяваць, маленькая Ірынка Кулакоўская адважна выступіла наперад і прывітала Дзеда Мароза. У міжчасе дзеці ў беларускай народнай вопратцы сталі перад Ялінкай і прыгожа прасьпявалі тры калядкі. Дзед Мароз іх моцна пахваліў, а старэйшыя падзякавалі гучнымі воплескамі. Пасьля карагоду дзяцей навокал Дзеда Мароза і супольнага адсьпяваньня «Ціхая Ноч» — Дзед Мароз пачаў раздаваць падарункі. Сп-ня Кукель раздала дзецям таксама падарункі й ад сяброў Камітэту.

Пасьля разданьня падарункаў, Дзед Мароз падзякаваў арганізатарам Ялінкі, пажадаў усім вясёлай далейшай забавы і, разьвітваючыся, паабяцаў, што калі дзеці будуць ветлівыя і будуць добра вучыцца — на наступныя Каляды ён наведае іх зноў.

Дзед Мароз пайшоў — пачалася музыка і танцы. Атмасфэра на залі хутка «сагрэлася». Сябры хору прасьпявалі некалькі беларускіх песьняў. Была разыграная лятарэя, прыбытак зь якой пакрыў кошты найму залі.

**М. Н.**

# Угодкі Слуцкага Паўстаньня ў Лёндане

У нядзелю 22-га лістапада ў Лёндане а. прат. В. Тарановіч адслужыў у царкве сьв. Спаса малебен за беларускі народ і Паніхіду па ўсіх, што загінулі ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі.

29-га лістапада ў каталіцкай царкве сьв. Пятра і Паўлы на Фінчлей сьв. Літургію і Паніхіду па палеглых за Беларусь адправіў а. Л. Гарошка ў саслужэньні з а. а. Я. Гэрманавічам і А. Надсонам. Сьпяваў хор Школы сьв. Кірылы. У сваім казаньні а. Гарошка гаварыў аб значэньні і вартасьці ахвяры.

Вечарам адбылася ўрачыстая акадэмія ў Беларускім Доме. Старшыня ЗБВБ, сп. Ул. Бутрымовіч, зрабіў вельмі цікавы й зьмястоўны даклад аб Слуцкім Паўстаньні. Паангельску гаварыла спадарышня Рера Рыч.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае мастацкая частка вечару, падрыхтаваная спадаршняй Рыч. Праграма складалася зь вершаў ангельскіх паэтаў на беларускія тэмы. Былі прачытаныя творы Олуэн Уэй, спадарыні Э. Цітовіч (ангельская паэтка, жонка Беларуса), Джэйн Кіндэр, Іўлін Тулі-Гант, Алісдэр Афтон, Д'яны Шэргольд і самой спадарышні Рыч.

---

«...Цямнота... Нічога ня відаць... Наблізіліся да ПЧ... Час — 1,25... Зона... На пазыцыях... Час — 1,45...»

«...Нас слухае нехта іншы... — занепакоена адазваўся начзаставы, — мы раскадаваныя... Перайсьці на другі канал сувязі...»

Шаркевіч з Корзюкамі быў ужо недалёка ад мяжы. Мясцовасьць была добра ведамая Шаркевічу да самай найменшай купіны. Ён ведаў некалькі пераходаў мяжы, дакладна вывучаных ім, і карыстаўся тым ці іншым у залежнасьці ад абставінаў... Бязумоўна, Шаркевіч ніколі сур'ёзна ня браў пад ўвагу, што нехта забясьпечыць яму пераход, створыць яму адпаведныя ўмовы, — гэта ён лічыў чысьцейшым абсурдам. Наадварот, Шаркевіч, як знаўца мяжы, лічыўся з найменшай драбніцай перасьцярогі. Ён ня верыў, ня меў права верыць, ні Кандрацэню, які яго выправіў, ні палякам, якія павінны сустрэць яго на тым баку.

Корзюк-маці, адыйшоўшыся ад хутару Баранкевіча зь вярсту, нечакана пачала скуголіць і ўгаварваць мужа вярнуцца, зьмяніўшы сваю ранейшую пастанову пад уплывам страху, які ўзрастаў у яе па меры набліжэньня да мяжы. Калі-ж хутар застаўся далёка ззаду, а мяжа згодна яе адчуваньню «упіралася» ў грудзі, перастаўшы войкаць, як дзіцянё, пачала туліцца да мужа, да сына, да дачкі і напасьледак сказала, што ляжа на зямлю, а ня пойдзе, калі Шаркевіч павядзе іх праз мяжу ня разам — спачатку яе з сынам, як былі ўмовіліся раней, а потым дачку з бацькам. «Жыць ці прапасьці разам». У ёй прачнулаяся вялікая сіла ўпартасьці, можа першы раз за жыцьцё, калі яна адчула нутром вялікую небясьпеку — сьмерць навет. Раман ня думаў ні аб чым, ён толькі быў сьвядомы свайго абавязку: яго прасілі на дапамогу, і ён прыйшоў, і вось вядзе іх пад сваім прыкрыцьцем, здавалася яму — надзейным і бясьпечным. І йшоў ён быццам нейкі заяц, петлямі — забяжыць наперад, акружыць, застанецца ззаду, прыстоіць збоку, быццам і запраўды не Шаркевіч, а ён вядзе ўсіх. Шаркевіч злаваўся, што Раман робіць шмат шораху, прасіў яго не задзіраць вельмі галавы, а прысядаць, зьлівацца з зямлёю і быць маўклівым, як яна.

Шаркевіч пагадзіўся з думкаю, што ўсе яны пойдуць разам, толькі не задаволены быў, што ноч занадта цёмная — ён любіў пераходзіць мяжу пры месяцы, пры ягоным зрадлівым сьвятле, калі ўсё няпэўна, хісьлява, зманліва, калі ты з-за купіны бачаш усіх, а цябе ня бачыць ніхто. Бывала, Шаркевіч прытуліцца, зрасьцецца з купінай і чарнеецца, як яна, да тых пор, пакуль месяц не пачнуць засьціць хмары, а ён зноў далей, да наступнай купіны, паўзком, як вужака. А тут — ноч як абвугленая засланка: ці ты напрэшся на каго, ці на цябе напруцца.

Ідучы, часта клаліся на зямлю, прыслухоўваючыся. Адзін толькі Раман ня слухаўся — стаяў над імі, як вартаўнік, і маці, лежачы цягнула яго зьнізу за штаніну, змушаючы прызямліцца. Маючы штосьці такое сам, зброі Шаркевіч нікому ня даў, як гэтага не дамагаўся Раман, — калі ня возьмеш хітрасьцяй, ніякая зброя не дапаможа, наадварот, увядзе яшчэ ў большую бяду. Лежачы і слухаючы, Шаркевіч меркаваў, як яму лацьвей прапхнуцца праз тую шчыліну, якая называецца мяжой. Але нічога з ягоных меркаваньняў ня выходзіла, і ён не на жарты занепакоіўся: быў проста перакананы, што пападзецца, і праклінаў і Кандрацэню, і Корзюкаў, і сябе. Куды-ж гэта на самай справе — гурт такі! Ніякі плян не нараджаўся — як адняло розум. А час — ішоў.

«...Канвой! Канвой!... — гаварыў начзаставы з свайго пакою. — Чуеце мяне? Пераходзьце на код тры-нуль-сямнаццаць... Як чуеце мяне?

«...Чуем... Перайшлі на код... Стаімо ў зоне... У зоне нехта ёсьць... Гамонка... Сябе не выяўляем... Час — 3,15... Неспакойна... Вялікая група...

Успыхнула ад выбуху цемра і на вокамгненьне ўсіх асьляпіла. Спачатку падразьдзяленьне ня ведала, як рэагаваць, чакаючы нападу, але хутка адказны за апэрацыю падаў каманду абстраляць зону. Цемра, як параненая, здавалася, прастагнала ад куляў, як ад вострага болю, раз-по-разу, як шыцьцём, захлынаючыся водгульлем. І зноў на нейкі момант запанавала цішыня, ды раптам праз гэтую цішыню пачаў набліжацца, каціцца нейкі гул у зону ПЧ. Падразьдзяленьне, як-бы спалохаўшыся свайго абстрэлу, затаіла дыханьне...

Толькі цяпер адказны за апэрацыю зразумеў, што ён зрабіў вялікую памылку — выбух у іхнай зоне быў правакацыяй, на якую ён не павінен быў адказваць. Але было ўжо позна, і ён бязвольна чакаў далейшага. Пагранічны інцыдэнт, справакаваны хоць і ня ім, не ўяўляўся яму прыемнай штукай. Ноч шырака — направа й налева — глуха заварочалася, азвалася затоеным сполахам; ледзь чутна недзе завяліся маторы; у воддалі палоскаю, як-бы па шнурку, запаліліся на сэкунду й пагасьлі фасфарычныя агеньчыкі; раздалася гамонка; зафыркалі коні, і як-бы ў адказ далёка-далёка на ўсю граніцу забляялі авечкі. За ўсю гэту парушаную цішыню, болей як за самога сябе, перажываў адказны за апэрацыю ў зоне ПЧ. Апэрацыя не ўдалася, апраўдаць інцыдэнт магло толькі што-небудзь непрадбачанае.

Тымчасам падыйшла на чале з камандзерам знэрваваная група жаўнераў з суседняй зоны. Абмяняліся паролямі. Камандзер прыбылай групы лаяўся, гатовы біцца, з адказным за апэрацыю, у той час як рэшта пагранічнікаў панура маўчала, як-бы адпачываючы...

Шашкевіч, забыўшыся спакойным сном, ляжаў на саломе ў гумне ўжо на тым баку — у Польшчы. Выдаўся надзіва пагодлівы дзень. Узыйшоўшы, сонца ярка, палетняму сьвяціла ў вароты з шчылінамі, і, калі Шаркевіч, ня зусім яшчэ прачнуўшыся, у паўсьне зірнуў на іх, яму, яшчэ соннаму, здавалося, што гарыць ягоная хата, і ён, у страху, пахопіста ўзьняўся з саломы, трывожна аглядаючыся, і ня ведаючы спачатку, дзе ён знаходзіцца. Рамана Корзюка зь сям'ёю тут ня было — іх адразу-ж некуды забралі, а ён адсыпаўся тут, каб зноў, як наступіць ноч, перакінуцца да хаты на хутар.

З польскім начальствам на кардоне Шаркевіч не паладзіў, уважаючы, што абыходзяцца з ім срога, не як з свачм чалавекам, але ўрэшце Шаркевіч плюнуў на ўсялякі гонар і, перастаўшы спрачацца, перайшоў на жарт, і тыя толькі пажурылі яго.

Калі ў яго запыталіся, чаму ён пераходзіў мяжу ня там, дзе на яго чакалі і дзе было умоўлена, ён запытаўся ў сваю чаргу:

— Хто чакаў?

— Мы, — адказаў паляк.

— А пану часам невядома, што на мяне чакалі ня толькі вы, але й нехта іншы?

— Хто, напрыклад?

— Няўжо-ж пан нагэтулькі нездагадлівы?

— Не! — хітра ўсьміхнуўся паляк, зірнуўшы у вочы Шаркевічу.

— Пан ніколі ня ўбачыў-бы мяне, каб я пераходзіў там, дзе мне радзілі пераходзіць.

І пачакаўшы з сэкунду, як-бы сур'ёзна дадаў:

# Ліст у Рэдакцыю

**Ад Рэдакцыі:** З прычыны нястачы месца, Ліст, падпісаны дзевяцю беларускімі парафіянамі з Адэляйды, зьмяшчаем ніжэй з большымі скаротамі, за што просім прабачэньня ў ягоных аўтараў. Прозьвішчы аўтараў ліста Рэдакцыі ведамыя.

*

Паважаная рэдкалегія газэты «Бацькаўшчына» і Паважаныя Чытачы. Чытаючы 2 артыкулы ў газэце «Беларускі Голас» за 13-га ліпеня 1964 г — «Як будавалася Царква ў Адэляйдзе», і «Новы рэлігійны твор у Аўстраліі», мы жадаем адзначыць, што гэтыя артыкулы ня зусім адпавядаюць праўдзе. Гэты самахвальны гімн аб дзейнасьці мітрафорнага пратаіерэя Міхаіла Шчурко і лаянкі на актыўных сяброў парафіі ў Адэляйдзе зь вельмі малымі зменамі быў напісаны яшчэ ў студзені гэтага году. Толькі дзякуючы парадам сп. Левановіча, што сорамна выносіць спрэчкі із свае хаты навонкі — гэтыя артыкулы ня былі надрукаваныя шмат раней і сьмяшней. Цікава было-б ведаць, кім сапраўды гэтыя артыкулы былі падпісаны? Самым М-П. Міхаілам Шчуркам? Многія Беларусы, прачытаўшы гэтыя 2 артыкулы, напэўна падумалі: такі добры, такі сумленны чалавек і адданы сьвятар, і такія нядобрыя, няўдзячныя парафіяне... Але так могуць думаць толькі тыя Беларусы, якія жывуць паза Аўстраліяй і сьвятара гэтага ня знаюць. Беларусы ў Аўстраліі, а асабліва ў Адэляйдзе (і ня толькі Беларусы) добра яго ведаюць. Дый сьвятаром ён мабыць стаўся зусім выпадкова, бо жыцьцё яго далёка ад жыцьця духоўнае асобы, а што да беларускасьці, дык пры нагодзе ён мог-бы быць і Расейцам, і Немцам і Паляком. Якім яго ведалі з часоў вайны — дык гэта-ж была вайна — то такія самыя мэтады ўжывае, якія ён ужываў і тады, асабліва ў дачыненьні да тых, хто за праўду стаіць і за чысьціню веры праваслаўнай і праўдай, як сольлю, сыплюць яму ў вочы. А каб адпомсьціць «ворагам» напісаў аж 2 артыклуы ў газэту, а праўды ў іх дык на ламаны грош няма, а затое маны, маны... — крый Божа мілы! І ўсё так хваліць сябе і усю гэтую сваю пісаніну, усёадно як-бы яна ад імя народу. А усё таму, каб увесьці ў непаразуменьне беларускае грамадзтва.

І вось мы пастанавілі напісаць праўдзівую гісторыю, бо маем на гэта факты, дакумэнты і жывыя праўдзівыя доказы. За аснову возьмем ягоны першы артыкул «Як будавана царкву ў Адэляйдзе». Адразу зь першых слоў няпраўда, што прыехаў да Аўстраліі Мітра-Прата М. Шчурко. Прыехаў а. Міхаіл, як звычайны сьвятар, а не Пратаіерэй ды яшчэ мітрафорны, і веды ягоныя былі вельмі слабенькія, бо духоўнай асьветы ня меў, і мо за два дыдні дыяканства стаў сьвятаром, а да гэтага ніякага дачыненьня да духоўнай працы ня меў. Праўда, што прыехаўшы, паказаў сябе энэргічным сьвятаром і расшукваў Беларусаў, каб зарганізаваць парафію. Але паводзіны а. Міхаіла ў лягеры «Вудсайд кэмп» настолькі абурылі адміністрацыю лягераў, што ў вадзін «нешчасьлівы» дзень пасадзілі ягоную сям'ю на машыну і выкінулі зь лягеру ў іншае месца. Такі быў пачатак ягонай сьвятарскай дзейнасьці.

Апынуўшыся празь нейкі час у Адэляйдзе, Беларусы былі задаволеныя, што прыехаў сьвятар БАПЦ і яго падтрымалі. Не адзін а. Міхаіл ходаўся, каб зарэгістраваць сьвятую БАПЦ, як ён гэта піша ў сваім артыкуле. (Рэгістрацыя, якая адбылася 1950 г., была рэгістратурай толькі ягонай асобы, як сьвятара БАПЦ-вы). Яшчэ ў 1950 годзе сп. Трысмакоў 2 разы разам з а. Міхаілам мелі аўдыенцыю ў Англіканскага Япіскапа, Беларусы Адэляйды склалі просьбу да ўладаў і прасілі, каб яго зарэгістравалі. І на просьбу Беларусаў ён быў зарэгістраваны, як сьвятар БАПЦ. Але Царква, як адзінка, як арганізацыя ня была ўрадава зарэгістраваная да 1958 году. Як нам давялось купляць блёк пад будову царквы, а куплялі ўсе аднэй думкай на царкоўную грамаду, — калі мы падалі назоў нашай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, дык нам сказалі, што такога назову, такой царкоўнай арганізацыі у рэгістратуры няма. Нам усім аж вочы на лоб вылезьлі. Празь сем год сьвятар гаварыў, што наша Царква зарэгістраваная, **а тут на** табе, — кажуць, — што не! І да сяньняшняга дня сьвятару не дакажаш, што ён толькі зарэгістраваў самага сябе, як сьвятара БАПЦ-вы, а ніколі не зарэгістраваў царквы. Ён піша, што толькі ён турбаваўся аб памешканьні пад царкву, а Беларусы, асабліва сп. інж. Трысмакоў былі навет супраць. А мы добра ведаем, што а. Міхаіл разам з сп. Трысмаковам хадзілі да сьвятара англіканскай царквы на Альбэртоне адносна памешканьня. А. Міхаіл прыпісаў гэта захадам Украінцаў. І спадар Акавіты зь ім хадзіў і шукаў памешканьня пад царкву. Выказваньне а. Міхаіла, што сп. інж. Трысмакоў быў супраць адчыненьня парафіі БАПЦ — гэта найзласьнейшая мана, бо неаднаразова выказваў ён сам праціленжае, калі бываў у Беларусаў і хваліў, што адзін сп. Трысмакоў яму памагае. А бываў ён часта на кватэрах у Беларусаў тады. Гэта ня тое, што цяпер, што Беларусы Адэляйды ня хочуць навет каб ён і ў хату зайшоў. Няма ў а. Міхаіла нічога сьвятарскага, а як аб чалавеку і гаварыць шкада і сорамна. У Украінскай царкве а. Міхаіл служыў разам з украінскім сьвятаром а. Пётрам Грушэцкім. Беларусы таксама наведвалі царкву. У 1953 годзе спадаром інж. Трысмаковам была праведзена першая акадэмія ў Адэляйдзе пасьля службы Божае з нагоды 25-га сакавіка. Але а. Міхаіл, як асоба няўжыўчывая, пасварыўся і тут. У часе службы Божай ён хацеў кіраваць а. Грушэцкім, настаяцелям парафіі УАПЦ, і навет заводзіў спрэчкі каля сьв. прастолу. Аднаго разу пасьля службы Божай а. Пятро Грушэцкі выставіў ягоныя рэчы на двор і сказаў, каб больш не прыходзіў. Так закончылася кар'ера а. Міхаіла ўжо другі раз пасьля Вудсайду. Далей пачынаецца трэйці этап дзеяньня а. Міхаіла ўжо ў собскім памешканьні, ўзятым на рэнту. Сьцёбнуў яшчэ раз па сп. інж. Трысмакову, хоць 12 год хваліў, ды яшчэ як хваліў, і ня толькі ў Адэляйдзе, а і за морам і ў часапісе «Голас Царквы». Дый ці толькі аднаго ён усім расхвальваў — хваліў і сп. Акавітага, дый многа яшчэ каго цаніў і хваліў, аж тут на табе — ў канцы ўсім «падацёр носа» і ману цягне далей. Знайшоўшы памешканьне, як піша а. Міхаіл, ён на другі дзень пайшоў да сп. Славачэўскага — украінскага рэгента і атрымаў згоду на кіраўніцтва хорам у нашай царкве. А мы ведаем, што сп. інж. Трысмакоў, яшчэ калі ня мелі памешканьня, дамовіўся з сп. Славачэўскім і ён даў згоду. А. Міхаіл аб гэтым ведаў таксама. Мы ведаем, таксама, што сп. інж. Трысмакоў ішоў у царкву на першую службу Божую, як псаломшчык і быў ім аж да 1963 году — 9 год. Далей ізноў мана. У першы год існаваньня нашай парафіі многа, ня толькі Беларусаў, але і Украінцаў наведвала нашу царкву.

Талерачны збор быў не малы і ўсе грошы ішлі а. Міхаілу, які бескантрольна імі апякаваўся і ніколі ніводнага пэна ён не заплаціў за рэнту сваімі грашыма, бо ў гэтым ня было патрэбы. Далей ён зноў бярэцца за сп. інж. Трысмакова, так ён яму ў косьці ўеўся, а ўсё за тое, што ня церпіць маны, няпраўды і праўду ў вочы заўсёды кажа. Вядома-ж, усе дыктатары, якія ўсю сваю пыху на мане трымаюць, страшна ня любяць тых, хто ім мяшае. Сярод Беларусаў, што аглядалі англіканскую царкву, якую Беларусам прапанавалі купіць, былі спадары: Акавіты, Дзітман, Кулініч і а. Міхаіл. Але-ж ня было там сп. інж. Трысмакова. Але-ж трэба яго туды ўсунуць і яшчэ раз сьцебануць, калі ўжо маніць, дык маніць па савецкай пагаворцы: «крой Ванька, Бога нет». Сп. інж Трысмакоў не адмаўляе, што ў прыватнай размове з а. Міхаілам ён выказаўся супраць куплі тэй царквы, бо Беларусы грошаў ня мелі ў той час і было нас вельмі мала, але-ж нікому зь Беларусоў ён сваіх паглядаў ня выказваў. Цяпер праз сем год можна з задаволеньнем сказаць: добра, што мы тады гэтую старую царкву ня купілі.

На пастаноўкі і канцэрты прыходзілі ўсе Беларусы, ня гледзячы на тое, што адчувалі разлад створаны а. Міхаілам. Гэтая культурна-грамадзкая праца актыўных Беларусаў падняла дух і жыцьцё сярод беларускіх эмігрантаў у Адэляйдзе і дала магчымасьць многім павярнуцца назад да свае парафіі, хоць частка, і досыць вялікая, была страчаная і не павярнулася. Вось гэта той дадатак да артыкулу а. Міхаіла, што ён забыўся напісаць. І падобных такіх дадаткаў было-бы вельмі многа — амаль ці ня цэлая кніга.

Злосную ману піша а. Міхаіл калі гаворыць, што яго запрашалі на збор грошай на пабудову царквы, тлумачачы, што парафіяне не ахвотна давалі грошы на царкву безь ягонае прысутнасьці. Езьдзілі сябры камітэту і актыўныя сябры і з а. Міхаілам і безь яго зьбіраць грошы. Зборы паказалі, што больш людзі давалі грошай бяз прысутнасьці а. Міхаіла. Давалі навет і тыя на будову царквы, хто і адмаўляў, калі зьбіралі з а. Міхаілам.

За пабудову царквы Беларусы ўзяліся зь вялікай ахвотай і хутка вырасьлі сьцены царквы, нават прыходзілі памагаць і тыя Беларусы, каторыя пакінулі нашу парафію. Але няўжыўчывая натура а. Міхаіла пачынае яму не даваць супакою. А. Міхаіл ізноў поркацца стаў і яшчэ з большай няпраўдай і маной насіцца пачаў і выказвацца дзе папала, а найбольш на казаньнях і ўпатайку. А. Міхаіл лічыць сябе за найразумнейшага мусіць чалавека, ня толькі за усіх парафіян і сьвятароў, а навет і япіскапаў і прэзыдэнтаў. Дык ня мог зьмірыцца з тым, што яго ня выбралі і кіраўніком будаўніцтва. А мы мелі за дарадчыка аднаго архітэкта, які вельмі добра разумееццца ў будаўніцтве цэркваў. І вось ходзіць і сее ўсякія выдумкі сярод парафіян, што сьцены занізкія робяць, што клюб збудуюць, а не царкву, што грошы крадуць, што ня хочуць рабіць купалу. Адным словам, усіх гэтых выдумак не пералічыць.

Цяпер хацелася-б сказаць адносна сп. Акавітага. Сп. Акавіты грамадзкі чалавек, усімі паважаны, і найбольш паклаў працы пры пабудове нашай першай сьвятыні ў Адэляйдзе, хоць ён ня быў выбраны старшынём у справе будаўніцтва царквы, але практычна на яго галаве ляжала усё кіраўніцтва і будаўніцтва. Ён найбольш адданы быў гэтай справе. Як многа раз ён адмаўляў свой «овэртайм» на фабрыцы, каб толькі па суботах аддаць сваю працу для пабудовы свае БАПЦарквы. Хто-б ні завітаў да хаты сп. Акавітага — пажаданы госьць. І заўсёды ў вольны час у сп. Акавітага ёсьць хто небудзь зь Беларусаў. Часта і вельмі часта там бываў і сам а. Міхаіл. А раз хваліў яго і падзяку аддаваў ня так проста, а афіцыяльна, у царкве. А што сталася цяпер?! За ўсё дабро падзяку «добрую» сп. Акавіты атрымаў — а. Міхаіл яго злодзеем назваў.

А. Міхаіл далей пляце ману аб нейкай таямнічай арганізацыі, закладзенай у нашай парафіі, і статуце, які гэтая арганізацыя хацела накінуць парафіі. Такой здольнасьці ашукваць беларускае грамадзтва на эміграцыі пазайздросьцілі-б пісакі з газэты «Голас Радзімы». Ніжэй падаем справу аб статуце. Заступнік старшыні сп. В. Левановіч і сябра новай парафіяльнай рады сп. К. Ранцэвіч — хутка раскусілі гэтага хвальшывага чалавека, але нічога зрабіць не маглі. Паводля існуючага статуту, старшыня парафіяльнай рады — гэта настаяцель царквы, нявыбіраны і не кантраляваны. Адзіны ратунак палепшаньня стану парафіі — зьмена статуту ў тым кірунку, каб настаяцель займаўся духоўнай працай і быў дараднікам парафіяльнай рады, а старшыня парафіяльнай рады, як і іншыя сябры рады — павінен выбірацца із сяброў парафіі. Таму на агульным сходзе парафіі 5 4. 64 г. сп. Левановічам была ўнесена прапанова аб выбары камісіі ў справе выпрацоўкі новага, палепшанага статуту парафіі. Прапанова была ўхвалена гэтым сходам і была выбрана камісія ў складзе 5 сяброў. На першае паседжаньне 12. 4. 64 г. камісія паклікала а. Міхаіла і дыякана а. В. Чычэліс. Камісія мела 3 праекты статуту: стары статут нашай парафіі, статут парафіі УАПЦарквы і праект статуту, напісанага аўстралійскім адвакатам. Там быў і ліст аўстралійскага адваката. Камісія думала, што пры дапамозе 3 статутаў і парадаў з боку духоўных асобаў, напіша новы, палепшаны парафіяльны статут, які дапаможа палагодзіць усе непаразумленьні ў парафіі і будзе базай для далейшага разьвіцьця Царкоўна-грамадзкага жыцьця парафіі. Адзін із сяброў камісіі ўзяў праект статуту і запіску — напісаныя Аўстралійскім адвакатам — прачытаць дома. Мы ня ведаем, як гэта здарылася, але фатаграфічныя копіі гэтага праекту (чаму не старога статуту нашай парафіі ці статуту УАПЦ) і абразьлівыя водклікі або новым статуце (якога яшчэ ня было), былі разасланыя а. Міхаілам у Пэрт (Уладыку Сергію), Амэрыку і магчыма па ўсім сьвеце. Адразу і ў парафіі а. Міхаіл пачаў шалёную агітацыю супраць выпрацоўкі новага статуту і сяброў камісіі — называючы іх маскоўскімі агентамі. Ён піша, што «паясьніў, што азначае статут новае дэмакратычнае царквы» на паседжаньні парафіяльнай рады

Заканчэньне на 7-ай бач.)

— Вы хацелі-б, каб я сам прыйшоў у распасьцёртыя рукі. — На тое-ж я й пераходчык, — міргнуў у дадатак Шаркевіч паляку.

Шаркевіч расказаў, як цяжка яму прышлося з Корзюкамі. Выратавала яго толькі ягоная здагадлівасьць і ўсяго толькі адна «гранатка», якая асьляпіла ім бельмы і здавалася ім нямаведама чым.

— Яны мяне чакалі ў вадным месцы, а я перайшоў у іншым. Сры-бяры, лоб маж, а мы ўжо й тут, ліханька!

Паляк пахваліў за кемлівасьць Шаркевіча, адначасна ўсёткі ўпікнуўшы што нарабіў ім шмат клопату сваім перайначваньнем.

Кажны раз, як правіла, калі прыходзіў да іх Шаркевіч, палякі фатаграфавалі яго. Сфатаграфавалі й на гэты раз. Далі савецкіх грошай, накармілі, а, як сьцямнела, адвезьлі на кардон.

Толькі на гэты раз Шаркевіча чакала няўдача.

Перад самым адыходам на мяжу Шаркевіч, ужо ад другога ваеннага начальніка, атрымаў заданьне, выслухаў інструкцыю, як і дзе пераходзіць, што гаварыць і чаго не гаварыць на выпадак, калі зловяць і г. д. Шаркевіч прасіў, каб яму далі свабоду дзеяньня, каб яго нікуды не вялі і ня пхалі ззаду на той бок, а каб ён сам, бязь іхнай дапамогі, мог абраць для сябе месца пераходу і час. Ды яго начальнік пераконваў, што дапамога патрэбная, што без дапамогі яму пагражае небясьпека, а галоўнае — ня можа-ж ён швэндацца наўкола і нюхаць ува ўсі дзюркі польскай заставы. Шаркевіч нарэшце пагадзіўся з довадамі ваеннага начальніка, і зь першымі пеўнямі крануўся ў небясьпечную дарогу.

Такое ўжо, відаць, было шчасьце Шаркевіча, што й на гэты раз ён шчасьліва перайшоў мяжу. Небясьпека яго чакала дзесьці наперадзе.

Зь пераходам мяжы, аднак, Шаркевіч прыпазьніўся. Па савецкім баку ён ішоў, калі ўжо было відна, ня бачачы для сябе ніякай пагрозы. Калгасьнікі ўжо прыехалі на працу. Не хаваючыся ад іх, а як-бы заняты сваімі думкамі, пануры, не выяўляючы ніякага неспакою, як заклапочаны гаспадар, ішоў ён полем з выглядам чалавека, якому ўсё тут знаёма. Можа дзеля гэтага Шаркевічавага спакою, ніхто з калгасьнікаў не палічыў яго за падазронага чалавека і не затрымаў, як гэта часта здаралася з такімі хадунамі.

Дабраўся да свайго хутару. На папасе першай заўважла яго каняка. Шаркевіч не чапаў яе, толькі падумаў: «Грызігрызі дол, нябога, і гадуйся сама, няма калі за табою хадзіць». У хаце яшчэ ўсе спалі і на дварэ было ціха, як-бы ніхто тут і ня жыў. Шаркевіч даражыў сном дзяцей і ў хату не пайшоў, а накіраваўся проста да імшаніка, каб перачакаць там нейкі час, пакуль не прачнуцца дзеці. Увайшоў, згінаючыся, ў дзьверы, а з правага боку, у самую скронь, ужо глядзеў на яго наган начзаставы. Зь левага боку стаяў другі чалавек — таксама ўзброены — і пачаў, нічога не гаворачы, абмацваць кішэні Шаркевіча, але нічога не знайшоў у іх, апрача грошай.

— Разбагацеў, га, Шаркевіч? — насьмешліва і сувора запытаўся начзаставы.

Шаркевіч спакойна адказаў:

— Дык апраўдаў, кажаш, давер савецкай улады?

— А ўжо-ж.

— Апраўдаў, чаму не?

— Гад ты!

— І ў цябе ня бела ў роце.

І ўжо зірнуўшы ў вочы начзаставы, Шаркевіч, як-бы выраслы у плячох, таксама сувора дадаў:

— Вядзі, калі ўзяў, досыць царамоніцца! знойдзецца каму пытацца ў мяне і без цябе!

Папрасіўся толькі разьвітацца зь дзецьмі, але начзаставы не адпусьціў яго і пад эскортай пагнаў на заставу.

*11*

На перщым-жа допыце Раману Корзюку зусім стала ясна, чаго ад яго хочаць. Зморанага доўгімі допытамі, яго адвялі ў маленькі пакойчык у тым самым будынку, дзе й дапытвалі. У пакойчыку быў ложак, столік і табурэтка, а ў вуглу, каля дзьвярэй, — мятла зь бярозавых пруткоў. Было ўжо позна, і Раман зваліўся ў ложак, — яго няпрыемна ўразіла, што падушка была напхнутая саломай, але ён хутка заснуў. Гэта была ягоная першая ноч у Польшчы.

Назаўтра, а восьмай гадзіне, яго разбудзілі стукам у дзьверы. Лёгкая на ўразу амбіцыя Рамана Корзюка праявіла сябе радыкальна самай адборнай лаянкай. Але ўжо ў дзьвярох стаяў, усьміхаючыся, нейкі ніжэйшы ваенны чын і ласкава запрашаў Рамана на сьняданьне. Гэтая акалічнасьць трохі суняла Рамана, але не паўстрымала ад запальчывасьці:

— Ці нельга было-б лішні раз не напамінаць мне, дзе я знаходжуся?

— Гэта не я, пане, стукаў, — дзяжурны, у іх такі звычай. — А хіба пану тут не падабаецца?

Даняло Корзюка й тое, што ніжэйшы чын уважліва глядзеў, як Раман адзяваўся — Раман сароміўся сваёй доматканай бялізны.

За сьнеданьнем чын быў з Раманам назойліва гаваркім і назойліва далікатным.

Пасьля сьнеданьня чын з усьмешкай прывёў Рамана да нейкага вышэйшага начальніка. Упяршыню з учарайшага дня тут Раман сустрэўся зь сям'ёю.

Калі Раман яшчэ ўваходзіў у вялікі пакой начальніка, маці, седзячы на крэсьле, коратка зірнула на яго й заплакала.

Суворы на выгляд начальнік, старэйшая ўжо асоба, гэстам пасадзіў Рамана побач сястры й далікатна прагаварыў да маці:

— Трэба радвацца такому сыну, а ня плакаць!

І пасьля паўзы, абвёўшы вачыма ўсіх Корзюкаў, абдумваючы кажнае слова, як-бы ўспамінаючы тэкст зараней напісанай для яго прамовы, начальнік спакойным тонам, як адвакат, пачаў усьведамляць перабежчыкаў:

— Фактычна, Польшча, згодна ўмовы з Савецкім Саюзам, адсылае, выдае савецкіх грамадзян-перабежчыкаў, гэтаксама як СССР выдае нам нашых. Гэта правіла. Тым больш ня прыймаем мы людзей, якія даканалі ў сябе на бацькаўшчыне якое-небудзь злачынства і, каб не панесьці кары, шукаюць сабе ратунку ў іншай дзяржаве. Гэта таксама правіла. Але я ня хочу запалохваць гэтым... Да рэчы, я не хацеў-бы, каб вашая цурэчка была сьвяткем таго, што мы будзем тут гаварыць — она ест ешчэ дзецко.

Пры гэтым начальнік усьміхнуўся да «дзецко» гэтак, якбы перад ім сядзела запраўдная панна.

— Можа-б яна пачакала ў іншым пакоі? Зрэшты, яна разумее папольску?

Маці адказала, што не разумее, але чын усёт-кі выклікаў жаўнера, каб забраць яе. Адылі дачка Корзюкаў прыклеілася да маці і не хацела ісьці. Тады начальнік папрасіў выйсьці з дачкою і маці.

— Дык крыміналістых, пане Корзюк, мы не прыймаем.

— Паважаны пане, дык я-ж...

— Прашу слухаць, калі я гавару, — строга абсек чын Савосту.

— Даруйце.

— Хто хоча ў нас толькі схавацца, звычайна, у нас сымпатыі не знаходзіць. Інтэрэсы нашай дзяржавы вышэй гэтага. Мы ведаем, што вы раскулачаныя, што ня любіце савецкай улады і г. д. Але адно гэта яшчэ не дае падставы шкадаваць вас, гэтага, гавару, яшчэ замала. Тады мы мусілі-б пашкадаваць цэлыя мільёны такіх, як вы. На жаль, мы гэтага ня можам зрабіць. Замала й таго, пане Корзюк, што ў вас тут, у нас, ёсьць свваякі, крэўныя. Для Польшчы трэба даканаць нешта такое высокае, каб Польшча магла вас прыняць і ўсынавіць. Польшча — дзяржава такога тыпу, якая ад сыноў і дачок сваіх спрадвеку патрабуе вялікіх ахвяраў. Вы забілі еднэго большэвіка. Добра! Але гэта, паўтараю, — крыміналістыка. Як стварэньня Боскага, нам шкада вас, зразумела. Хаця й перад Богам вы сваю віну мусіце яшчэ адкупіць таксама. Што-ж тычыцца Польшчы, дык перад ёю, на ейны аўтар, вы мусілі-б злажыць вялікую ахвяру, і толькі тады, заслужоныя, вы маглі-б быць прынятыя ёю. Вы гатовыя на ахвяру для Польшчы, спадар Корзюк? — катэгарычна паставіў пытаньне польскі чын.

# З песьняй па сьвеце

Энтузіязм — вялізарнейшая сіла. Гэта пацьвердзілі яшчэ раз на справе кіраўнікі двух важнейшых беларускіх хораў, кампазытары: Н. Верасаў, кіраўнік мяшанага беларускага хору і К. Барысавец, кіраўнік жаночага хору «Каліна».

Хоры гэтыя ўзьніклі спарадычна і на голым мейсцы — у поўным значэньні гэтага слова: ня было ні сродкаў, ні нацыянальных убораў, у якіх хоры выступаюць, ні часу для заняткаў, бо ўсе ўдзельнікі хораў, разам зь іхнымі кіраўнікамі, заняты сваёй асноўнай працай, пад час даволі цяжкой, на фабрыках; было толькі адно — замілаваньне роднай беларускай песьняй і гарачае жаданьне папулярызаваць яе тут, на выгнаньні, сярод іншых народаў.

І здарыўся цуд: мала-па-малу знайшлося ўсё:

Прыемна бачыць, калі стройнымі шэрагамі ў нацыянальных беларускіх гарнітурах удзельнікі хораў выходзяць на сцэну — адзін-у-адзін, вясёлыя, здаровыя, маладыя, — маладыя і духам і целам. А яшчэ прыямней, калі пачуеш тут, над Атлянтыкам, нашу, так лірычную і так багатую мэлёдыяй, беларускую песьню. Гледзячы на іх і слухаючы іх, яшчэ раз пераконваешся, якое вялікае значэньне мае для творчасьці свабода: за грошы можна купіць усё, але натхненьня ня купіш. Яно ўласьцівае толькі свабоднаму духу! Але толькі яно, натхненьне, дае сілу ствараць сапраўды мастацкія рэчы.

Прыклад: у сталінскія часы, у СССР, на мастацкую дзейнасьць адпускаліся вялізарнейшыя сродкі. Але, разам з тым, ішоў і дыктат, няволя. І, у выніку, былі створаны дзесяткі псэўдамастацкіх опэраў, кантат, сюіт, сымфоній і сотні, калі не дзесяткі сотняў, псэўданародных песьняў, якімі ніхто не захапляўся і якія ўжо даўно забыты.

Слаўнай беларускай песьняй захапляліся такія волаты мастацтва, як Бэтговэн, Шопэн, Манюшка, Мусоргскі і інш. Але на абшарах Усходняй Беларусі да падзеяў 1939 году, зь ёй было ўжо амаль пакончана. Яе прызнавалі, зразумела толькі ў колах так званых кіруючых, партыйных, а па-праўдзе, вялікадзяржаўных расейскіх, архаічнай, наццэмаўскай і нясугучнай сацыялістычнаму будаўніцтву, яе ганьбавалі і выганялі з рэпэртуараў, замяняючы новаствораний гучнай дрындушкай...

Рыгору Шырме і Н. Цітовічу (абодвы із Заходняй Беларусі) пашанцавала часткова рэгабілітаваць беларускую песьню, але, паўтараем, толькі часткова, бо не дазволена нікому пад савецкім небам твэрыць свой рэпэртуар: цэлая зграя прытупленых дыяматам апаратчыкаў кантралюе кожнае слова, кінутае са сцэны. Доказам гэтае няволі зьяўляецца тое, што нават вялікія сталічныя беларускія хоры, як хор Беларускага радыёкамітэту, пад кіраўніцтвам Ганны Зелянковай, на 95 прац. запоўнены не беларускім рэпэртуарам, нягледзячы на тое, што носіць імя беларускае. Што-ж гаварыць пра правінцыю, пра які-небудзь Магілеў ці Віцебск, Брэст ці Пінск? Роўнай і простай дарогі для роднай беларускай песьні да масавага беларускага слухача, пакуль-што, няма.

Нацыянальна сьпелая частка беларускай эміграцыі ў Злуч. Штатах Амэрыкі, таксама, як і ў Канадзе, і па ўсім сьвеце, добра ўсьведамляе, што шчыра патрыятычнае, беларускае і паводля формы і паводля зьместу, мастацтва можа ўзбагачацца, расьці і мацнець толькі на вольным, незалежным грунце. Пакуль-жа гэтакага грунту на Бацькаўшчыне няма, пакуль Беларусь, нягледзячы на абяцанкі, не зьяўляецца сапраўды незалежнай і сапраўды сувэрэннай дзяржавай, беларуская эміграцыя павінна аддаваць частку сваёй працы, ведаў і часу для пашырэньня яго тут, па-за межамі Бацькаўшчыны. Не памылімся, калі скажам, што кіраўнікі хорамі із Саўт Рывэр, сп. сп. Н. Верасаў і К. Барысавец, таксама як і Э. Зубковіч зь Нью Ёрку, што аддае нямала часу на музычнае выхаваньне падрастаючага тут беларускага пакаленьня, і энтузіястка-кіраўнічка скокавага беларускага ансамблю Ала Орса-Рамано, як і ўсе іншыя, хто мае тое ці іншае дачыненьне да мастацкай творчасьці, да беларускай культуры, кіруюцца гэтым, высока ідэёвым, прынцыпам. Зразумела, лепш было-б, каб яны, побач з гэтай ахвярнай працай, мелі такі-сякі прыбытак, хоцьбы для пакрыцьця выдаткаў у звязку із сваімі выступамі, але, у сучасных умовах, аб гэтым можна толькі марыць...

Наймагутнейшым штуршком для ўзмацненьня мастацкай самадзейнасьці сярод беларускай эміграцыі ў Злуч. Штатах была сусьветная выстаўка ў Нью Ёрку. Хацелася паказаць сьвету, што беларускі народ мае свае, апрычоныя ад суседзяў, высока-мастацкія здабыткі. І, ужо задоўга да адчыненьня выстаўкі, пачалася напружаная праца па падрыхтоўцы: зборы, пробы, рэпэтыцыі, набыцьцё нацыянальных убораў... Заданьне ня лёгкае. Трэба было кожнаму ўдзельніку і іхным кіраўніком выкраіць кавалак часу із сваіх штодзённых абавязкаў. Колькі гэта каштавала нэрваў! Але, затое, і дасягненьні атрымаліся не малыя: выступленьне на выстаўцы прайшло з трыюмфам і беларуская эміграцыя ў Злуч. Шта ах мае цяпер добра наладжаныя калектывы песьні і скокаў.

Шостага сьнежаня на акадэміі ўшанаваньня памяці аддаўшых жыцьцё за Беларусь, ладжанай беларускімі вэтэранамі зь Нью Ёрку і Нью Джэрсі (Саўт Рывэр), беларускі жаночы хор «Каліна», пад кіраўніцтвам кампазытара Барысаўца, зноў выступіў, на гэты раз ужо перад чыста беларускай аўдыторыяй, якая была досыць лічнай. Выявілася, што спачываць на лаўрах — ня ў гусьце сп. Барысаўца: хор узмацнеў, рэпэртуар пашыраецца. На вялікім мастацкім узроўні былі выкананы: «Сьпі пад курганам», словы Янкі Купалы, муз. Равенскага, «О, Беларусь, мая шыпшына», словы Ўл. Дубоўкі, муз. Куліковіча, «Васількі», словы Н. Арсеньневай, муз. Барысаўца, «Народная-пастушская» — апрацоўка Мухіна, «Ох, і сеяла Вульяніца лянок» — народная, аранжыроўка Н. Цітовіча і інш.



Адзін зь беларускіх хораў Нью Ёрку

Хочацца зрабіць адну заўвагу сп. Барысаўцу, што да «Ох, і сеяла Вульяніца лянок», незалежна ад таго, прыйме ён яе, ці адкіне. Як было ўжо зазначана, песьня гэта хорам была выканана, з гледжаньня тэхнічнага, добра. Але інтэрпрэтацыя яе, на наш погляд, некалькі адступае ад уласьцівай ёй натуры. Справа ў тым, што песьня гэта — сьцісла лірычная. Беларуская кабета, вырасьціўшы «лянок-кужалёк», які дае ёй магчымасьць апрануць сям'ю, не выхваляецца гэтым, а аддаецца лірычным успамінам, зьвязаным з працай над гэтым лянком-кужальком. Адсюль і ўва ўспамінах гэтае кабеты (уласна, у ейнай песьні) чуюцца то сумна-лірычныя нюансы, то, наадварот, радасныя, вясёлыя, але не эфэктоўныя. Такую ахварбоўку гэта песьня атрымала і ў Н. Цітовіча — у выкананьні жаночага ансамблю пры Беларускім дзяржаўным хоры. Канкрэтна гэта выявілася ў некалькі сьцішаным, як-бы ў задуме, тэмпе і ў зацягваньні канцовак слоў: «ляно-о-о-оок: кужале-ё-ё-ёоок», што надае ёй асаблівага характва і павялічвае сілу ўзьдзейнічаньня. І сапраўды, трэба мець у грудзях камень замест сэрца, каб не ўзрушыцца і не расчуліцца, слухаючы яе ў гэтым выкананьні. Тым часам, у выкананьні сп. Барысаўца яна атрымалася крыху як-бы эфэктаванай, зухвалай.

Прыемна адзначыць, што сп. Барысавец, побач з хорам, шмат увагі аддае солёвым выступам: на наш пагляд, тут мы маем справу із спробай тварэньня свайго нацыянальнага рамансу, спробай, пачатай ужо раней праф. Э. Зубковіч і ейнай моладзяй. Гэта заслугоўвае падтрымкі з боку грамадзкасьці, тым больш, што й на Бацькаўшчыне гэты ўзор мастацтва быў як-бы пад забаронай і, за выняткам Ларысы Александровіч і артысткі Млодэк, амаль не практыкаваўся. Ната Кіркевіч з хору «Каліна», якая ўжо ня раз выступае перад публікай пад кіраўніцтвам сп. Барысаўца у гэтым жанры, мае вельмі калярытны і прыемны голас.

І так, беларуская песьня ідзе ў сьвет.

**М. Цэлеш**

# Ліст у Рэдакцыю

17. 5. 64 г. На гэтым паседжаньні а. Міхаіл заявіў, што ў складзе парафіі ён не находзіць такога чалавека (акрамя яго), якому можна-б было даверыць пасаду старшыні парафіяльнай рады. Таксама ён патрабаваў, каб сябры парафіяльнай рады падпісаліся супраць новага статуту і надпісалі яшчэ якіясь паперы, якіх ён нікому ня даў прачытаць. Але ніхто із сяброў рады на гэтым паседжаньні нічога не падпісаў. Ня гледзячы на праклёны з амбону і перашкоды з боку а. Міхаіла, камісія працягвала працу у справе выпрацоўкі новага статуту. Закончыўшы працу, камісія разаслала новы статут кажнаму сябру парафіі і запросіны на агульны сход парафіі 26. 7. 64 г. На сход зьявілася 83% складу парафіі. Пасьля адчыненьня быў выбраны прэзыдыюм сходу. Старшыня выбранага прэзыдыюму, сябра камісіі ў справе выпрацоўкі статуту сп. Левановіч у ўступнай прамове сьціпла адзначыў працу праробленную камісіяй і даў слова а. Міхаілу, які ўвесь час перашкаджаў гаварыць крычучы, што ён прэзыдэнт і ніякіх выбарных прэзыдыюмаў не прызнае. У сваёй прамове а. Міхаіл страшэнна лаяўся, абзываў сяброў камісіі і другіх парафіян вырадкамі, агентамі і г. д.

Пасьля гэтага ён дэманстрацыйна пакінуў сход, а за ім вышла частка парафіян. Сход працягваўся далей. Быў зачытаны тэкст прапанаванага статуту. Парафіяне, якія засталіся на сходзе (62% складу парафіі) статут усебакова абгаварылі і прынялі яго з малымі папраўкамі. У наступную Нядзелю, а. Міхаіл з амбону лаяў усіх тых парафіян, што засталіся на сходзе і падпісалі новы статут і заявіў, што пазбаўляе іх права голасу ня гледзячы на тое, што ня мае права гэтага рабіць.

У другім артыкуле «Новы Рэлігійны твор у Аўстраліі», які як-бы абагульвае першы артыкул, гаворыцца аб новым статуце. Ніякага статуту нейкай «Беларускай Дэмакратычнай Царквы» ніхто не складаў. Складаўся статут парафіі БАПЦ і ніхто паводля гэтага статуту не пазбаўляецца права голасу на агульных сходах і парафія належыць да Юрысдыкцыі БАПЦ. Ці ведае арх. Сергій пра падзеі, якія адбываюцца ў нашай парафіі?

На ўсе факты, апісаныя ў гэтым адказе на хвальшывыя артыкулы а. Міхаіла, мы маем дакуманты.

**Подпісы**

---

Увесь час чын гаварыў толькі да Савосты, зрэдку толькі пазіраючы на Рамана нейкімі застыглымі, шклянымі вачыма.

— Пане начальнік, дайце мне цяпер сказаць...

— Пане Корзюк, вы найперш адкажэце на маё пытаньне — вы гатовыя на ахвяру для Польшчы? — яшчэ больш катэгарычным тонам сфармуляваў пытаньне высокі польскі чын.

— На якую ахвяру, выбачайце?

Раздражоны, павярнуўшыся ад Савосты да тэлефону, польскі чын загадным ладам прагаварыў у слухаўку:

— Забраць адгэтуль чалавека!

Як па сыгналу, хутка зьявіўся чалавек у форме і забраў Саввосту.

— Паважаны студэнце, дрогі колега, коханы, млоды чловеку, — з пашанай, як да сябры, і адначасна пабацькоўску зьвярнуўся чын да Рамана, — забудзем на прыкрую гутарку з ойцэм пана!

— Для каго прыкрую?

— Для мяне і, спадзяюся, для пана, — бліснуў вачыма чын, — ці хіба пану ня сорамна за ойца за такі ягоны жалюгодны адказ на пытаньне ўладзы.

— Так, пане, мне запраўды сорамна, што мой ойцец не адказаў пану па заслузе за абразу, відавочна, даруючы такі прывілей сыну.

— Мы такога прывілею вам не дамо! — ніколькі не зьбянтэжыўшыся, упэўненым, стрыманым, але суровым голасам, устаючы з крэсла, прагаварыў польскі начальнік. — Я спадзяюся, што ў халоднай пан студэнт настолькі астыгне, што рэальна ацэніць сваё палажэньне. Даю вам часу да вечару. Зразумейце адно, што да выкананьня нашых абавязкаў мы народ таксама ганаровы.

І пан дэманстрацыйна, як-бы нейкай бравадай, адаслаў Рамана з пасыльным у камэру.

У халоднай Раман запраўды астыг, ці лепей сказаць — сьцішыўся. Цяпер ён глядзеў на сябе самога зьнекуль здалёк, збоку, як на чужога, і на адлегласьці добра бачыў сябе — свае памылкі і сваё нейкае донкіхоцтва. Аднак, гэтая здольнасьць бачыць сябе збоку, як і заўсёды, прыходзіла да Рамана позна. Раман ніколі ня мог скарыстаць з свайго вопыту самааналізу: будучы сам на сам, Раман валодаў сабою, спраўляўся з сваёй натурай, і зусім ня памятаваў сябе, губляўся, калі зь некім сутыкаўся. Сутыкацца й было Раманавым донкіхоцтвам. Толькі так ён і мог сябе праявіць. Сутыканьне — гэта й было дзеяньнем Рамана, ягонай натурай. На самоце-ж сваё *дзейства* Раман асуджаў, мучыўся і каяўся, бо ён ведаў, што яно яго зьнішчала. Але-ж і безь яго ён ня мог жыць.

Лірычная плынь замяніла цяпер сабою Раманава дзейства; прыслухоўваючыся да гэтай плыні, асьветлены ёю, ён бачыць сябе. Гэтая лірычная плынь як-бы становіцца ягоным розумам.

Вось хоць-бы ўзяць допыты. Ці-ж так я мусіў-бы адказаць? Задзірства, і ўсё, і ніякага розуму ў гэтым задзірстве няма. Чаго я даб'юся гэтак? Ні бацьком, ні сабе гэта ня пойдзе на карысьць. Наадварот. Усёж-ткі мы перайшлі мяжу, шукаючы прытулку, дык і мусіў-бы я прасіць гэтага прытулку, калі не для сябе, дык хоць-бы для іх. А, зрэшты, чаму й не для сябе? Куды я дзенуся?.. Я ідэялізаваў Польшчу. І вось я цяпер у Польшчы! Чаму-ж я не люблю цяпер Польшчы? Мо таму, што яна не прыняла нас? А мо таму, што я ня ведаю яе? Няма тут усьмешкі тэй, якой я шукаў, спадзяваўся. Бо ўрэшце-рэшт, чаго-ж я шукаю, калі ня тэй-жа самай, адзінай на сьвеце ўсьмешкі? Сустрэчы адзінай? І ці не найпрыгажэйшая гэта мэта — ахвяраваць сябе гэтым пошукам? Патрабаваў-жа паляк нейкай высокай ахвяры. Пошукі — можа гэта і ёсьць тая самая ахвяра, усьмешка тая? Нерэальная, недасягальная і ад таго такая прывабная. Самае прыгожае, што ёсьць на сьвеце — гэта пошукі нерэальнага. Скончыцца гэта і тады больш нічога ня будзе. Дзеля прыгожага вобразу невядомага варта ахвяраваць сабою. Польшча патрабуе ахвяраў. А ці-ж не патрабуе ахвяраў мая бацькаўшчына? Яшчэ болей! Можа я й люблю Польшчу — калыску мае Бацькаўшчыны, але я не патрэбны ёй, гэтаксама як і яна мне. Я бягу ад яе і яна ня мае права затрымаць мяне. Затрымацца — значыць скончыцца. І я пайду, каб ня скончыцца... Папрашуся...

Раман падняўся і, больш не разважаючы, застукаў у дзьверы. На ягоны стук дзяжурны зазірнуў у «ваўчок» і зьнік, нічога не сказаўшы. Корзюк грукаў яшчэ і яшчэ, але ніхто не падыходзіў да яго. Прайшло яшчэ колькі хвілін. Раман прыклаў вуха да дзьвярэй, але нікога н ячуў на карыдоры, аж пакуль гулка не аддаліся нейчыя крокі. Раман спыніў дыханьне — нехта ішоў да дзьвярэй. І вось адчыняюцца дзьверы, і ні сон, ні ява — перад ім дзеўчына, трошкі прысадзістая й куцая, запрашае «пана студэнта» на «гарбатку», усьміхаючыся і заглядаючы ў вочы. Раман выходзіць з камэры. Дзяўчына вядзе яго наверх па сходках, угору і ўгору, бягом паперадзе, як-бы дражнячы і ўцякаючы ад Рамана, але ўцекчы ёй было цяжка — Раман толькі сігане адзін-два разы сваімі доўгімі нагамі, і ўжо даганяе яе.

— Пане студэнце, пан начальнік выклікае вас і я прарочу вам добрыя навіны — усьміхнулася палячка такімі белымі, чыстымі зубамі, што Раман ажно страпянуўся, як у ліхаманцы.

Ідучы насустрач Корзюку, новы начальнік, пасьля прывітаньня, прапанаваў яму сесьці. Але Раман не садзіўся, як-бы не пачуўшы запрашэньня, рашчулены, ён глядзеў на начальніка натхнёнымі вачыма, і начальнік, трохі як-бы зьдзіўлены, паўтарыў запрашэньне. Начальнік увесь час, яшчэ вылазячы з-за стала, і выцягваючы насустрач Раману свае рукі, усьміхаўся яму, відавочна, разьлічваючы гэтым падкупіць Рамана, заваяваць ягоную да сябе сымпатыю.

— Дазвольце мне пастаяць. Я хачу прасіць вас стоячы.

— Аб чым-жа, сыне, — ласкава запытаў начальнік.

— У імя Бацькаўшчыны мае, у імя навет самой Польшчы, адпусьцеце мяне на Бацькаўшчыну.

— Што вы надумаліся?

— Цяжка мне адказаць на гэта, але я думаю, я тут не патрэбны вам. Я проста не надаюся для вас.

— Вы можаце лёгка так загінуць.

— Мне нічога ня страшна, пане начальнік. Я хачу вярнуцца.

— Вы маеце права прасіць.

— І яшчэ ў мяне, выбачайце, адна просьба да вас: пашкадуйце маіх бацькоў — не аддавайце іх. Вашага хлеба яны ня будуць есьці задарма.

Начальнік яшчэ раз вылез з-за стала, усадзіў Рамана на крэсла і, вярнуўшыся, зноў сеў на сваё месца. Як і раней, шырака ўсьміхнуўшыся, гледзячы ў вочы Раамну, як-бы рады таму, што ўжо меў на думцы, урачыста сказаў:

— Вы проста вымалілі, чаго хацелі — мы вас адпускаем, калі вы моцна хочаце таго, пане студэнце... Мы любім вас...

— Дзякую...

— Вашых сваякоў тут у нас мы ўжо паведамілі — заўтра яны прыяжджаюць за вашымі бацькамі і за сястрычкай. Такім чынам вам застаецца толькі разьвітацца зь імі, калі вы толькі хочаце пакінуць нас, паўтараю.

— Зрабеце такую ласку...

— Спадзяюся, што ў асобе пана студэнта мы будзем мець, прынамся, прыяцеля.

Позна ўначы Рамана Корзюка прывезьлі на польска-літоўскую граніцу. Дзеля Раманавай бясьпекі было вырашана вяртацца ў БССР з Лацьвіі. Корзюк атрымаў сабе праваднiка.

Ідучы халоднай восеньскай ноччу — спачатку па Польшчы, а потым праз дзень і па Ліцьве — Раман уздыхаў свабоднымі грудзьмі паветра двух краін, страшэнна падобнае да паветра яго бацькаўшчыны. Цяжка ўявіць сабе тую вялікую сілу, якая ўзьнялася ў Рамане Корзюку і якая гнала яго цяпер назад, у Менск, як ён ужо пасьпеў вырашыць, і толькі ў Менск. Як той жораў, што блукаючы ў паднябесьсі, быў на хвіліну заблудзіўся й цяпер знайшоў правільную дарогу, Раман Корзюк радасна вярнуўся як-бы да свае сям'і, хоць ягоная запраўдная сям'я засталася ўжо ззаду. Запахі зямлі, ночы, лясоў, сьвятло зор рабілі Корзюка нейкім вялікім, магутным, ён як-бы выростаў, выцягваўся і, магутны, здавалася, нёс на сваіх плячох гмах усёй сьветабудовы.

*(Далей будзе)*

